18 красавіка 2014 | № 15 (384)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10014

**4 ХАРКАЎ: КРЫВАВЫЯ «АНТЫФАШЫСТЫ»**

Я пастараюся зразумець гэтых людзей, але дараваць ім я не магу, бо помста іх сляпая і жахлівая. Бачыў яе на ўласныя вочы

**6 ДАБРОМ НА ЗЛОЕ**

Заўсёды ёсць небяспека судовай памылкі, пра што сведчыць вядомая на ўвесь былы СССР справа маньяка Міхасевіча, больш вядомая як «Віцебская справа»




**12 ВЯЛІКІ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ МАЙДАН**

Сацыяльная тэматыка падаецца адной з тэмаў, якія могуць аб'яднаць украінскія Захад і Усход. Аднак сацыяльныя сілы ва Украіне вельмі слабыя

**14 СПОВЕДЗЬ САВЕЦКАГА ПАРТЫЗАНА**



Супрацоўнік НКУС Кузьма Жарэбін, ураджэнец Курскай вобласці Расіі, удзельнічаў у «вызваленні Заходняй Беларусі», ваяваў у Фінляндыі, прайшоў Вялікую Айчынную. Яго ўспаміны раней нідзе не друкаваліся

# Карупцыя несмяротная!

**Фішка «барацьба з карупцыяй» — зноў запушчаная ў гульню. Аляксандр Лукашэнка зноў даў распараджэнне пачаць татальную барацьбу з карупцыяй, і зноў жа татальна пачаліся «пасадкі» чыноўніцтва. Але ці будзе ад гэтага нейкі плён?**



Сяргей ПУЛЬША

У барацьбу з карупцыяй Лукашэнка гуляе даўно. 20 год кіравання краінай у гэтым сэнсе прайшлі беспаспяхова — «гідра карупцыі» апынулася жывучай. Пасля каманды, толькі за пачатак сакавіка, было распачата больш за дзесяць «карупцыйных» крымінальных справаў. І гэтая хваля працягваецца.

Апошнімі днямі затрыманні сярод чыноўніцтва ідуць, падаецца, без перапынку. Пасля наведвання Лукашэнкам Слуцкага мясакамбіната затрыманыя гендырэктар прадпрыемства і ягоны намеснік. Ім інкрымінуюць злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, нядбайнасць і перавышэнне паўнамоцтваў. Супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі былога дырэктара баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск» Канстанціна Шарэверу па фармулёўцы «крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі». Прычым 14 красавіка Шарэвера сышоў з пасады, а 15-га апынуўся ў камеры.

Былы першы намеснік міністра лясной гаспадаркі Фёдар Ліціса на мінулым тыдні быў звольнены з пасады за «дыскрэдытацыю звання дзяржслужбоўца» — то бок, невыкананне абмежаванняў, звязаных з дзяржслужбай. А зараз у адносінах да яго ўжо распачатая крымінальная справа за злоўжыванне ўладай.

Можна з упэўненасцю сказаць — гэта яшчэ не ўсё. «Пасадкі» будуць і надалей: бо вясна, трэба садзіць калі не бульбу, дык карупцыянераў. Але насцярожвае ў гэтай сістэме іншае.

Мы шмат чуем пра гучныя карупцыйныя схемы і скандалы падчас затрымання высокіх і не вельмі чыноўнікаў. Следчыя органы рэгулярна рапартуюць пра нібыта раскрытыя карупцыйныя злачынствы і ўзбуджэнне крымінальных спраў. Але мы вельмі рэдка чуем пра іх заканчэнне, і вельмі рэдка суд над карупцыянерамі можна лічыць паспяховым.

Былы пракурор Мінскай вобласці Міхаіл Снягір быў асуджаны да 7 гадоў за атрыманне хабару і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі — аджаў элітную кватэру. Адседзеў чатыры гады і выйшаў умоўна-датэрмінова.

Нават Лукашэнка звяртаў увагу на парушэнні і распіл бюджэтных сродкаў пры рэканструкцыі Купалаўскага тэатра ў сталіцы: была набытая мэбля невядомых вытворцаў на 3,6 мільярда (!) рублёў. Адна тумбачка каштавала 58 мільёнаў (на той момант 7 тысяч долараў!), а крэсла кіраўніка — 41 мільён! Прамежкавы вынік справы: вымовы віцэ-прэм'еру Анатолю Калініну і былому міністру культуры Паўлу Латушку за адсутнасць кантролю за бюджэтнымі сродкамі. А нядаўна было перакваліфікаванае абвінавачванне менеджэру ВПУП «Белмашсэрвіс», які нібыта ўцюхаў гэтыя тумбачкі і крэслы заказчыку: зараз яго абвінавачваюць толькі ў нанясенні маёмаснай шкоды, прычым без матэрыяльнай шкоды!

Самыя цікавыя карупцыйныя скандалы — гэта дзве справы дырэктаркі Мінскага цырку Таццяны Бандарчук. Аж у 2000 годзе следства нам казала, што злавіла яе на хабары літаральна за руку. Але потым яе справа была спыненая, і спадарыня Бандарчук вярнулася да выканання сваіх абавязкаў у цырк. У 2013 яе зноўку звінавацілі ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. І зноўку справа да суда не дайшла, паколькі Бандарчук, паводле паведамлення БелТА, «добраахвотна пакрыла прычыненую шкоду і сплаціла прыбытак, атрыманы злачынным шляхам».

**Гучныя карупцыйныя справы — і такія мізэрныя ад іх вынікі**




Чаму ж у нас такія гучныя карупцыйныя справы і такія мізэрныя ад іх вынікі?

Год таму быў створаны антыкарупцыйны камітэт у Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Актывісты і кіраўнікі АГП нават правялі ў Беларусі своеасаблівы «антыкарупцыйны марш»: ездзілі па рэгіёнах краіны і абмяркоўвалі праблему карупцыі са сваімі прыхільнікамі і актывістамі розных ініцыятыў. Вынікам, паведаміў намеснік старшыні АГП, эканаміст Леў Марголін, стала высновa: Лукашэнка і не імкнецца змагацца з карупцыяй.

«Мы бачым, што праблема карупцыі больш сістэмная, фактаў карупцыі апошнім часам стала больш. Але нідзе не бачна, каб таксама сістэмна вялася і барацьба з карупцыяй. Як нам паказваюць, ёсць «асобныя выпадкі карупцыі», якія павінны быць раўнамерна размеркаваныя і па рэгіёнах, і па сферах дзейнасці, і па ўзроўню карумпаванага чыноўніцтва. Нідзе не праводзіцца аналіз, выяўленне заканамернасцяў у карупцыі, не ствараецца сістэмы прадухілення такіх выпадкаў, і гэтак далей», — сказаў Марголін.

Таму мы нярэдка бачым, што чыноўнік, якога падазравалі ў карупцыі, альбо вяртаецца на сваю пасаду, альбо раптам прызначаецца на іншую, часам не менш адказную, у іншы рэгіён альбо ў іншую сферу дзейнасці — і на гэтым «карупцыйны скандал» заканчваецца.

Між тым, па меркаванні Марголіна, у барацьбе з карупцыяй не трэба «вынаходзіць ровар» — ёсць досвед шматлікіх краінаў, якія паспяхова карупцыю перамаглі. «Для гэтага патрэбна стварыць тры рэчы. Першае — менш улады чыноўнікам на кіраванне ўласнасцю і фінансавымі плынямі. Другое — празрыстае і зразумелае заканадаўства. Трэцяе — свабодная прэса і незалежная судовая сістэма», — лічыць Марголін. Аднак на такую антыкарупцыйную кампанію дзяржава не пойдзе. А калі так — і ніякай барацьбы з карупцыяй не будзе. Затое бачнасць барацьбы з карупцыяй зараз будзе проста ашаламляльная.

«Напярэдадні прэзідэнцкія выбары 2015 года. Падкарміць электарат наўрад ці атрымаецца — сітуацыя ў эканоміцы кепская. Няма грошай — трэба арганізаваць відовішча. Адзін раз гэта спрацавала. Аляксандр Лукашэнка лічыць, што яно можа спрацаваць і другі раз», — адзначае Марголін.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. У пракуратуры свае законы



**Пракуратура сцвярджае, што выдаваць копіі вынесеных грамадзянам папярэджанняў не абавязана. Пра гэта ў лісце да журналіста Яўгена Скрабца паведаміў намеснік пракурора горада Брэста Іван Чайчыц.**

Сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» з Брэста Яўгена Скрабца 21 сакавіка выклікалі ў гарадскую пракуратуру, дзе спрабавалі атрымаць у яго адказы на пытанні кшталту, ці працуе Скрабец на замежныя СМІ без акрэдытацыі і ці не дыскрэдытуе ён Беларусь на ўласных матэрыялах.

Тады Яўген адмовіўся адказваць на гэтыя пытанні і падпісваць пратакол апытання, а праз дзесяць дзён, 31 сакавіка, ён зноў быў выкліканы ў пракуратуру, дзе незалежнаму журналісту было вынесена папярэджанне «аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў». Папярэджанне тычыцца публікацый журналіста на сайце «Беларускага Радыё Рацыя», якое месціцца ў Беластоку.

Адметна, што само пісьмовае папярэджанне Яўгену Скрабцу ў пракуратуры выдаць адмовіліся, пасля чаго сябра ГА «БАЖ» пакінуў адпаведную заяву, бо копія папярэджання яму патрэбная для далейшага абскарджання.

Зараз з адказу намесніка пракурора горада Брэста вынікае, што «заканадаўствам не прадугледжана абавязкаў выдаваць грамадзянам копіі афіцыйных папярэджанняў». Адначасова ў лісце паведамляецца, што Скрабец можа зноў наведаць пракуратуру, каб азнаёміцца з дакументам.

**spring96.org**

### ВІЦЕБСК. Журналістку выклікаюць у міліцыю



**Алене Сцяпанавай належыць з'явіцца ў Кастрычніцкі РАУС Віцебска. Пра гэта паведаміў па тэлефоне старшы інспектар аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі РАУС Сяргей Вяракса.**

Журналістка запатрабавала афіцыйную позвы з указаннем, па якой справе і ў якой якасці яе выклікаюць. Інспектар запэўніў, што такую паперу дашле, але зазначыў, што журналістку выклікаюць «усё з той жа нагоды».

Верагодна, маецца на ўвазе леташняя гісторыя, калі той жа Сяргей Вяракса спрабаваў прыцягнуць Алену Сцяпанаву да адказнасці за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі.

У ліпені 2013 года Кастрычніцкі РАУС Віцебска завёў у дачыненні да журналісткі справу паводле арт. 22.9 ч. 2 КаАП («незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ»). У апісальнай частцы міліцыянты сцвярджалі, што Алена на працягу доўгага перыяду «ажыццяўляла прафесійную дзейнасць журналіста замежнага СМІ «Радыё Свабода» без адпаведнай акрэдытацыі».

Справа дайшла да суда, але суддзя Кастрычніцкага райсуда Іна Грабоўская накіравала адміністратыўны пратакол на дапрацоўку, заўважыўшы неадпаведнасць паміж адміністратыўным артыкулам і фактычным абвінавачаннем. Больш да разгляду гэтай справы суд не вяртаўся.

У жніўні 2012 года Алене Сцяпанавай абласная пракуратура вынесла папярэджанне за супрацоўніцтва з «чэшскай рэдакцыяй Радыё «Свабода». Хаця такога СМІ і не існуе, аспрэчыць санкцыю журналісткі тады не ўдалося.

**Прэс-служба БАЖ**

### Баранавічы. Экс-кандыдата ў дэпутаты звольнілі з працы




**Экс-кандыдата ў дэпутаты Рыгора Грыка 15 красавіка зволілі з ТАА «Сучасныя матэрыялы будаўнічыя», дзе ён працаваў у якасці слесара-штампоўшчыка з лютага 2013 года.**

Узгадзе аб звальненні за подпісам дырэктара прадпрыемства Галіны Буліга ўказваецца, што Рыгор Грык звольнены па ўзгадненні бакоў. Сам грамадскі актывіст лічыць, што пасля выбараў у мясцовыя саветы гарвыканкам узмацніў ціск на адміністрацыю прадпрыемства з мэтаю яго звальнення. Рыгор Грык быў кандыдатам у дэпутаты Баранавіцкага гарсавета.

«У 2008 годзе я балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў, і мяне звольнілі з Баранавіцкага бавоўнянага камбіната. А ў 2010 годзе я адмовіўся зняць сваю кандыдатуру падчас выбараў у мясцовыя саветы, і мяне пазбавілі працы ў вагонным дэпо, дзе я працаваў слесарам па рамонту чыгуначнага транспарту. Цяпер мне стварылі такія ўмовы працы, што я вымушаны быў напісаць заяву аб звальненні», — паведаміў Рыгор Грык.

**spring96.org**

# Асцярожна, прэвентыўныя затрыманні!

**Праваабаронцы атрымліваюць звесткі аб тым, што напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі магчымы правакацыі з боку супрацоўнікаў міліцыі ў дачыненні да актывістаў грамадскіх рухаў і іх прэвентыўныя затрыманні.**

Гэта пацвердзіў і каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» Максім Вінярскі, які нядаўна вызваліўся пасля 15-сутковага арышту.

У прыватнасці ён паведаміў, што перад вызваленнем з ЦІПа супрацоўнік міліцыі прапанаваў яму часова з'ехаць са сталіцы. Маўляў, калі вы разумныя людзі, дык павінны зразумець, што ў вас ёсць два варыянты: альбо з'ехаць з краіны, альбо выехаць у вёску на пэўны час (маецца на ўвазе час правядзення Чэмпіянату свету па хакею). Бо «пытанне з вамі ўсімі» будзе абавязкова вырашана, папярэдзіў супрацоўнік ЦІПа.

У адказ на гэтае папярэджанне Вінярскі заявіў праваабаронцам, што ён не ўжывае наркотыкаў, не лаецца матам, не схільны да хуліганскіх учынкаў, і таму свой магчымы арышт просіць расцэньваць як прэвентыўную ізаляцыю з-за сваіх грамадска-палітычных пераканнняў.

Максім Вінярскі таксама адзначае, што ў асяродку адміністратыўна арыштаваных актыўна праводзяцца дзеянні па накіраванні многіх з тых, хто патрапіў сюды па артыкулах 17.1 (хуліганства) і 17.3 (знаходжанне ў нецвярозым стане ў грамадскім месцы) КаАП, у лячэбна-папраўчыя прафілакторыі. Пры гэтым заўважаецца пэўная паспешлівасць: супрацоўнікі міліцыі нават не чакаюць этапу, а па адным-двух пасля хуткіх судоў адвозяць «на лячэнне».

Такім чынам улады рыхтуюцца ў Мінску да татальнай зачысткі грамадства ад непажаданых элементаў, якія могуць нейкім чынам паўплываць на меркаванне аб Беларусі з боку шматлікіх замежных гасцей.

**spring96.org**

# За непарушнасць Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**Трэба аднавіць непарушнасць ахоўнай зоны Курапатаў — да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі нарады экспертаў па сітуацыі вакол Курапатаў, што адбылася напярэдадні грамадскага абмеркавання праекту дэталёвага планавання (ПДП) забудовы тэрыторыі з захаду ад Курапатаў.**

У экспертаў выклікала пытанні тэма дэталёвага планавання тэрыторыі менавіта каля заходняй мяжы Курапатаў. Грамадскасці прапануюць абмеркаваць праект гэтай забудовы, калі ён ужо часткова здзейснены. Сумесная таварыства з абмежаванай адказнасцю «БелРэстІнвест» ужо пабудавала на 51-м кіламетры МКАД каля Курапатаў аб'ект прыдарожнага сервісу з першапачатковай назваю «Бульбаш-хол». Пры гэтым «БелРэстІнвест» парушыў заканадаўства, бо ўзвёў 4 (чатыры) дамкі ў ахоўнай зоне Курапатаў, вызначанай часовай схемай зонаў аховы гэтай гісторыка-культурнай каштоўнасці згодна пастанове Міністэрства культуры ад 12 мая 2004 года.

Каб выправіць гэтае парушэнне, неабходна выканаць прадпісанне Генеральнай пракуратуры Мінскаму аблвыканкаму ад 27 лістапада 2012 года аб вынасе «БелРэстІнвестам» 4-х дамкоў аб'екту прыдарожнага сервісу з тэрыторыі ахоўнай зоны Курапатаў.

Грамадскасць патрабуе, каб Міністэрства культуры надала дзеючай часовай схеме зонаў аховы Курапатаў статус канчатковага праекта. Адсутнасць такога нарматыўна-прававога акта ўжо прывяла і надалей прывядзе да перманентнага парушэння заканадаўства пры распрацоўцы ПДП забудовы тэрыторыі вакол Курапатаў.

І трэцяе, бадай, галоўнае патрабаванне грамадскасці. Да выпраўлення гэтага сур'ёзнага парушэння заканадаўства, да паўнацэннага зацвярджэння канчатковага праекту зонаў аховы Курапатаў усе дзеянні, звязаныя з праектаваннем і пагатоў забудовай тэрыторыяў вакол павінны быць спыненыя.

Апроч таго, эксперты звярнулі ўвагу на тое, што ПДП забудовы тэрыторыі каля Курапатаў утрымлівае элементы мемарыялізацыі (мемарыяльны парк «Курапаты» і мастацкі вобраз «Недабудаванага Храму»).

Грамадскасць нагадвае, што, па-першае, народны мемарыял у Курапатах ужо створаны намаганнямі грамадзянаў. Па-другое, 25 сакавіка 2002 года 14 грамадскіх аб'яднанняў Беларусі ўхвалілі «Канцэпцыю мемарыяла ахвяраў палітычных рэпрэсій «Курапаты», што акрэслівае ўмовы далейшай працы па ўшанаванні ва ўрочышчы памяці бязвінных ахвяраў сталінізму. Гэтая канцэпцыя разам з прапановай стварыць Рэспубліканскую камісію па мемарыялізацыі Курапатаў з удзелам грамадскасці была накіравана прэм'ер-міністру краіны Генадзю Навіцкаму. Эксперты лічаць, што лепшы праект мемарыялізацыі Курапатаў павінен быць вызначаны ў выніку адкрытага конкурсу і агульнанацыянальнага абмеркавання ўсіх прапаноў.

# Забыты спіс

Сяргей БЯДРЫЦКІ

**15 красавіка ва Управе БНФ у Мінску адбыўся круглы стол «Забыты спіс» (да 74-й гадавіны расстрэлу на тэрыторыі Беларусі афіцэраў польскага войска).**

Гісторык Ігар Кузняцоў распавёў прысутным аб сутнасці праблемы і падрабязна спыніўся на характарыстыцы савецкіх архіўных дакументаў па катынскай тэматыцы. Таксама даследчык прааналізаваў «тэхналогію», якой карысталася мінскае НКУС пры расстрэле так званага «польскага кантынгенту» ў 1940–1941 гадах. На думку даследчыка, не варта звужаць рамкі дадзенай праблематыкі толькі падзеямі вясны 1940 года. Не менш жудаснымі, па меркаванні Ігара Кузняцова, з'яўляюцца і расстрэлы ў чэрвені 1941 года, учыненыя НКУС падчас «эвакуацыі» зняволеных з турмаў.

Кандыдат гістарычных навук Ігар Мельнікаў падкрэсліў, што, разглядаючы гісторыю «Беларускага катынскага спісу», некарэктна казаць толькі аб польскіх афіцэрах. Увесну 1940 года ў распараджэнні мінскага НКУС былі не толькі польскія вайскоўцы і супрацоўнікі паліцыі, але і шматлікія цывільныя асобы, перш за ўсё землеўладальнікі, памешчыкі і асаднікі. Не варта забываць, што ў 1940–1941 гадах у руках НКУС на тэрыторыі БССР знаходзіліся не толькі польскія грамадзяне, але і падданыя трэціх краін, напрыклад, французы, брытанцы. Многія з гэтых людзей былі сярод вязняў турмаў, якіх пасля нападу Гітлера на Савецкі Саюз бальшавікі спрабавалі эвакуяваць на Усход, але часцей за ўсё гэтыя этапы заканчваліся расстрэламі.

Мельнікаў прадставіў увазе гасцей круглага стала гісторыі некалькіх польскіх грамадзян, жыхароў Заходняй Беларусі, імёны якіх, хутчэй за ўсё, фігуруюць у сумнавядомым «Беларускім катынскім спісе».

Нагадаем, у 1994 годзе Службай бяспекі Украіны быў знойдзены і перададзены Польшчы так званы «Украінскі катынскі спіс» — дакумент, у якім утрымліваліся прозвішчы 3 435 польскіх грамадзян, расстраляных НКУС на тэрыторыі УССР. Большасць польскіх і беларускіх даследчыкаў сталінскіх злачынстваў лічаць, што павінен быць і аналагічны «Беларускі катынскі спіс».

У дакладной запісцы Старшыні КДБ СССР Аляксандра Шалепіна ад 3 сакавіка 1959 года, у прыватнасці, адзначалася, што «ў распараджэнні КДБ на той час знаходзіліся ўліковыя справы на 7 305 польскіх грамадзян, расстраляных у лагерах і турмах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Калі адняць ад гэтага ліку колькасць людзей з «Украінскага катынскай спісу», то атрымліваецца, што на тэрыторыі БССР было расстраляна 3 870 грамадзян Польшчы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як зрабіць усім прыемна

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нашае кіраўніцтва рэдка радуе нас добрымі навінамі. Але мінулы тыдзень стаў выключэннем. Дзяржава, урэшце, занепакоілася, як зрабіць жыццё грамадзянам прасцей — і зрабіла.**

А ўсяго толькі і варта было — выдаць адзін прэзідэнцкі ўказ. Такім дакументам стаўся Указ №165 ад 14 красавіка 2014 года, які ўвёў новыя нормы страхавой дзейнасці.

Па-першае, згодна з гэтым указам у Беларусі ўдвая павялічана мінімальная кампенсацыя ў выпадку ДТЗ. Зараз па дагаворах абавязковага страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў павялічаны памер страхавой выплаты пры афармленні дарожна-транспартнага здарэння без выкліку супрацоўнікаў ДАІ з 200 да 400 еўра.

400 еўра — гэта адзін «сярэдні заробак па краіне». І наўрад ці аўтааматары не маюць такой сумы ў сваіх «заначках на аўто». А гэта значыць, што скароціцца праца ДАІ па выездзе на месцы ДТЗ і афармленні дакументаў. Гэта значыць, дробныя ДТЗ будуць ствараць менш праблемаў і «пробак» для іншых удзельнікаў дарожнага руху. Зараз адагнаць машыны ўбок і дамовіцца паміжсобку па-сяброўску будзе прасцей.

Прасцей стала і застрахаваць жыццё і здароўе. Права заключаць дамовы добраахвотнага страхавання жыцця з грамадзянамі Беларусі атрымалі і страхавыя арганізацыі з замежнымі інвестыцыямі. Грамадзянам адначасова прадастаўлена права ўключаць у затраты страхавыя ўзносы па добраахвотным страхаванні медыцынскіх расходаў па-за залежнасцю ад формы ўласнасці страхавой арганізацыі, з якой заключаны дагавор страхавання, і арганізацыі аховы здароўя, якая аказвае медыцынскую дапамогу. То бок зараз «медычны поліс» можна аформіць у любой кампаніі, якая такія паслугі надае, і звярнуцца з ім у любую медычную ўстанову.

Акрамя таго, пры ажыццяўленні абавязковага медыцынскага страхавання замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія часова знаходзяцца або часова пражываюць на тэрыторыі Беларусі, гэтым людзям прадастаўлена права выкарыстоўваць страхавы поліс замежных страхавых арганізацый без заключэння дадатковай дамовы абавязковага медыцынскага страхавання з беларускім страхоўшчыкам.

Зручна? Канешне. Зараз можна абысціся міжнародным полісам, як гэта робіцца ва ўсіх краінах свету, — без дадатковых паперак і выдаткаў.

Усяго адзін указ — а колькі карысці ён прынёс і нашым, і замежнікам, якія наведваюць альбо жывуць у Беларусі! Канешне, трэба было прывесці нашую страхавую сістэму ў адпаведнасць з сусветнай хаця б у нечым, і хаця б напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі.

Дарэчы, пра чэмпіянат. Як вядома, першыя ўражанні аб краіне чалавек атрымлівае па месцы ўезду. Прыкладам, нашыя, якія едуць у аўто альбо на цягніку ў Расію, адразу заўважаюць кантраст паміж Беларуссю і «старэйшай сястрой»: у Беларусі вёскі ўздоўж дарогаў асветленыя і ўпрыгожаныя, у Расіі — цёмныя і занядбаныя. Каб не было такога непрыемнага параўнання з боку Еўропы, Лукашэнка наведаў Нацыянальны аэрапорт «Мінск».

Там яму ўсё спадабалася. Канешне, заўважыў ён, што мадэрнізаваныя магутнасці аэрапорту пакажуць сябе толькі падчас пікавых наплываў пасажыраў, але тое, што запланавана зрабіць, павінна даць рады наплывам. Хутка мы пабачым, так яно ці не. І яшчэ Аляксандр Рыгоравіч закрануў даўно балючую праблему нашага аэрапорта — праблему будаўніцтва 2-й узлётна-пасадачнай паласы.

«Часам мы кідаемся на інвестара, які прапануе выгадныя ўмовы. Але гэтыя ўмовы нам з часам абыдуцца двайны коштам. Так, можа быць, нам самім узяцца за гэтую справу і зрабіць», — сказаў Лукашэнка.

А чаму не? Мы ж пабудавалі розныя «лядова-паркавыя палацы» ледзьве не ў кожным кутку краіны. Зараз яшчэ ў тых жа розных кутках аквапаркі будуем. Можа, хопіць займацца марнатраўствам, а зрабіць сапраўды нешта карыснае? Па словах Лукашэнкі, не трэба вынаходзіць ровар: «Людзі даўно будуюць гэтыя ўзлётна-пасадачныя палосы, у свеце іх тысячы. Так давайце возьмем добры праект, падключым аднаго пісьменнага праектанта, заплацім яму грошы, і ён будзе курыраваць гэты праект і падкажа нашым, як і што рабіць. Няўжо мы не зможам зрабіць?» — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Канешне ж, зможам. Былі б на гэта грошы, а з грашыма ўсё можна зрабіць. Падаецца, месца для лядовых палацаў у Беларусі ўжо не засталося. Зараз можна звярнуць увагу і на нешта больш карыснае.

Да таго ж, нам у чарговы раз дапаможа той самы расійскі імперыялізм. З таго, што замуціла Расія ва Украіне, чым бы гэта ні скончылася, трэба атрымліваць матэрыяльныя выгады.

Наш міністр замежных спраў Уладзімір Макей мякка намякнуў на гэта падчас выступу перад журналістамі. Беларусь толькі выйграе ад санкцый, уведзеных ЗША і ЕС супраць Расіі, заявіў ён. «Што тычыцца санкцый супраць Расіі, я думаю, што гэта для нас можа адкрыць нейкія новыя дадатковыя нішы для прасоўвання нашай прадукцыі ў Расію», — сказаў Макей. А каментуючы сітуацыю ва Украіне, ён выказаў упэўненасць у захаванні высокага ўзроўню гандлёва-эканамічнага ўзаемадзеяння.

Макей — хітры дыпламат. Ён кажа, што будзе прасоўваць беларускую прадукцыю ў Расію замест амерыканскай ці ЕСаўскай. Але гэтым разам ён нікога не падмане: усё будзе «з дакладнасцю да наадварот». Гэта мы будзем пхаць у ЗША і ЕС расійскую прадукцыю кампаній з «чорных спісаў». Зразумела, пры гэтым робячы выгляд, што гэта не расійская, а наша прадукцыя. І, канешне ж, будзем зарабляць на такім «рээкспарце».

Як піша энцыклапедыя «Вікіпедыя», ёсць наўпроставы і ўскосны рээкспарт. Просты — калі тавары з Расіі ўвозяцца ў Беларусь і потым перапраўляюцца ў іншыя краіны. А ўскосны — калі мы набываем тавар у Расіі і, не марнуючы часу, адразу ж адпраўляем яго пакупніку.

А яшчэ «Вікіпедыя» піша, што «прадметам рээкспарту могуць з'яўляцца нафта, прыродны газ, каўчук, каляровыя металы, поўсць, скура, харчовыя прадукты. Тавары могуць рээкспартавацца як у нязменным выглядзе, так і пасля нязначнай апрацоўкі (напрыклад, пераўпакоўкі і сартавання), якая выключае перапрацоўку».

Ну, вы зразумелі, пра што я...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Мясніковіч



**Беларускі прэм'ер падчас сустрэчы кіраўнікоў урадаў Мытнага саюза ў Маскве сумесна са сваім казахстанскім калегам Карымам Максімавым даў ціхі адлуп Дзмітрыю Мядзведзеву датычна сітуацыі ва Украіне.**

Падчас сустрэчы Мядзведзеў выказаў думку, што Украіна знаходзіцца на мяжы грамадзянскай вайны. «Гэта страшна. Спадзяюся, што ва ўсіх, ад каго залежыць прыняцце рашэнняў, у тым ліку ад улады ва Украіне, якую Расія не лічыць легітымнай і якая прыйшла да ўлады шляхам перавароту, усё ж хопіць розуму не давесці краіну да такіх страшных узрушэнняў», — заявіў расійскі прэм'ер.

Мясніковіч у адказ заявіў, што Украіна з'яўляецца для Беларусі не толькі суседам, але і партнёрам, адносіны з якім выстройваюцца на ўзаемавыгадных умовах. «Мы зацікаўлены ў вырашэнні праблем ва Украіне мірным шляхам», — канешне ж, сказаў Мясніковіч. І дадаў: «Мы зыходзім з таго, што Украіна зможа вырашыць праблемы самастойна». То бок, мякка параіў Мядзведзеву ў справы Украіны не лезці.

І Карым Масімаў таксама расчараваў Мядзведзева, паведаміўшы, што ў яго адбылася тэлефонная размова з Арсенем Яцанюком, у ходзе якой бакі дамовіліся аднавіць эканамічныя адносіны паміж Казахстанам і Украінай, а таксама працу двухбаковай міжурадавай камісіі.

## Яўген Васьковіч



**Як паведамляе аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», адміністрацыя магілёўскай турмы №4 пачала аказваць ціск на палітвязня Яўгена Васьковіча праз асуджаных.**

«Калі раней Яўгена катавалі, бясконца змяшчаючы яго ў штрафны ізалятар, абмяжоўваючы ў ежы, спатканнях і перадачах, дык цяпер турэмшчыкі абралі іншую тактыку — задзейнічалі іншых асуджаных», — гаварыцца ў паведамленні. Якім чынам задзейнічаныя асуджаныя, які ціск аказваецца на Васьковіча і пра крыніцы інфармацыі БХД не ўдакладняе. Але выказваецца здагадка, што гэта звязана са спробамі прымусіць Васьковіча напісаць прашэнне аб памілаванні напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі.

Нагадаем, Яўгена Васьковіча затрымалі 17 студзеня 2011 года ў Магілёве, на наступны дзень пасля яго ўдзелу ў акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі. Яго абвінавацілі ў нападзе на будынак КДБ у Бабруйску, які адбыўся ў ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010 года. У нападзе ніхто не пацярпеў, а рэальныя страты склалі 253 тысячы рублёў, якія былі кампенсаваныя. Нягледзячы на гэта, суд прысудзіў Васьковіча да сямі год зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

## Клаўс Зіберт

**Нямецкі спецыяліст Клаўс Зіберт, які да апошняга часу з'яўлўся старэйшым трэнерам зборнай Беларусі па біятлоне, пакінуў нацыянальную каманду.**



У нямецкага спецыяліста скончыўся кантракт, і Зіберт вырашыў яго не працягваць. Цяпер ён хоча засяродзіцца на сваім здароўі — трэнер змагаецца з анкалагічным захворваннем.

Клаўс Зіберт з'явіўся ў беларускай зборнай у 2008 годзе. Яго запрасілі як спецыяліста па стральбе. Найбольшага поспеху Зіберт дамогся ў стралковай падрыхтоўцы жаночай беларускай каманды. У красавіку 2012 года Зіберт за значны асабісты ўклад у развіццё біятлона ў краіне і падрыхтоўку спартсменаў міжнароднага класа быў узнагароджаны ганаровай граматай Савета міністраў Беларусі.

Спартыўная кар'ера Зіберта прайшла ў зборнай ГДР, у складзе якой ён станавіўся срэбным прызёрам Алімпіяды–1980 у эстафеце, а таксама трохразовым чэмпіёнам свету (у 1978 годзе — у эстафеце, у 1979-м — у індывідуальнай гонцы і эстафеце). У сезоне 1978/79 Зіберт стаў уладальнікам Кубка свету. Трэнерскую кар'еру пачаў у 1984 годзе ў юніёрскай зборнай ГДР. Уваходзіў у штабы нацыянальных каманд Германіі і Аўстрыі, а з 2006 года па красавік 2008-га з'яўляўся галоўным трэнерам зборнай Кітая.

# Харкаў:
# Крывавыя «антыфашысты»


Зміцер ГАЛКО

**«Мы тут зараз — як тыя рыбкі ў акварыуме. Плаваем ад сценкі да сценкі, тыкаемся ў шкло і не ведаем — ці насыплюць нам корму, ці ўключаць кампрэсар або, можа, кіпяцільнік у ваду сунуць...» — лічаць харкаўскія журналісты.**

Харкаў не заслугоўвае таго, каб згадвацца адно ў сувязі з сепаратысцкім бунтам. Я вельмі памыляўся, уяўляючы яго такім безаблічным савецкім горадам. Насамрэч, гэта вельмі своеасаблівы горад, дзе савецкае не толькі выглядае цікавым, але і надзіва арганічна спалучаецца з еўрапейскім.

### Ілліч ідзе на штурм абладміністрацыі

Фрыдрых Шэлінг называў архітэктуру «застылай музыкай». На мой погляд, савецкая архітэктура ў маім родным Мінску — гэта застылы бюракратычны абсалютызм. Іншая справа — у Харкаве, дзе захавалася шмат узораў авангарду 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя. У ім увасабляецца імпэт, выклік і футурыстычнасць савецкага праекту. Таго перыяду, калі камунізм быў «моладасцю свету».

Нават у галоўных помніках Леніну ў Мінску і Харкаве можна ўбачыць гэтую розніцу. Нерухома стоячы на трыбуне спіной да Дома ўраду ў Мінску, ён быццам выконвае ролю гальюннай фігуры — упрыгожвання на носе пdescribed паруснага судна, звычайна ў выглядзе багоў, якое мусіла ахоўваць старажытных мараплаўцаў ад штормаў. Міфічнага першаначальніка, першабюракрата. У Харкаве ж складаецца ўражанне, нібыта Ілліч ідзе на штурм абласной адміністрацыі. Ён рашуча крочыць у будучыню — падымаецца ўгору, выцягваючы руку з адкрытай далонню, крыссе яго паліто раздзімаецца ад ветру...

Нядзіўна, што менавіта тут нарадзіўся і вырас Эдуард Лімонаў, які большую частку жыцця быў палымяным рэвалюцыянерам-рамантыкам. Як і тое, што Сяргей Жадан, адзін з найбольш вядомых сучасных харкаўчан, жорстка збіты 1 сакавіка як «бандэравец» прарасійскімі штурмавікамі, на самай справе лявак. Самаабарона харкаўскага Майдана, дарэчы, складаецца ў асноўным з анархістаў — унікальны выпадак. Выступоўцы на Майдане часам ужываюць зварот «таварышы», і гэта нікога не бянтэжыць.

### Навошта еўрапейскаму гораду Расія?

Еўрапейскі складнік Харкава — гэта вялікая колькасць захаванай даўніны, арыгінальныя скульптуры і графіці, шматлікія кавяранькі, атмасфера ўтульнасці. Адзін з раёнаў Харкава носіць назву «Новая Баварыя».

Яшчэ ў свой першы прыезд сюды, напачатку вандроўкі па гарачых кропках Украіны, я сказаў свайму суразмоўцу, дацэнту кафедры раманскай філалогіі Харкаўскага нацыянальнага ўніверсітэта, Ігару Оржыцкаму: «Проста не ўяўляю сабе, як у такім горадзе могуць з'явіцца імкненні далучыцца да Расіі!»


**Каардынатары сепаратыстаў.** Фота ўкраінскай журналісткі Алёны Сакалінскай

Не, расійскі складнік тут велізарны — украінскай мовы амаль не пачуеш, досыць рэдкі нават украінскі акцэнт, больш за тое, на ўкраінскую дзе-нідзе крывяцца, робяць выгляд, што не разумеюць, пераважная колькасць шыльдаў зроблена па-руску, чаго няма і ў Данецку, у грамадскіх месцах часта гучыць «Радыё Шансон».

Але ён выглядае заможным, адукаваным, багатым на ўнікальныя асабліваcці і гарманічным. Адным словам, еўрапейскім. Навошта яму здымацца з месца і перавязджаць у невядомасць?

### «Ніякія» людзі

Цяжка сказаць, наколькі адпавядаюць рэчаіснасці дадзеныя Уладзіміра Чысціліна, каардынатара харкаўскага Майдана, які гаворыць усяго пра 15% жадаючых далучэння да Расіі, але гэта дакладна не большасць гараджан.

Чаму ж тады не сціхаюць сепаратысцкія выступленні, чаму ў мінулую нядзелю колькасць удзельнікаў прарасійскага мітынгу значна перавышала колькасць майданаўцаў — яны проста ўмомант змялі іх?

Я маю свой варыянт адказу на гэтае пытанне. І ён пужае мяне самога. Бо палягае ў падабенстве Мінска і Харкава, якое напачатку падалося мне проста чымсьці забаўным і выпадковым. З незразумелых на той момант прычынаў я раптам адчуў, быццам трапіў у свой родны горад. Хаця вонкава Мінск і Харкаў моцна адрозніваюцца, няўлоўны дух вельмі падобны.

З чаго ж складаецца падабенства? Безумоўна, з падкрэсленай савецкасці, якая дасюль старанна выпешчваецца ў абодвух гарадах. З «парадку» — у Харкаве ён нетыповы для Украіны, на ім таксама робіцца акцэнт, як і ў Мінску. Тут яго наводзіць Генадзь Кернес. Беларускім карыстальнікам інтэрнэту вядомы ў якасці камічнага персанажу, але, як кажа Уладзімір Чысцілін, у Харкаве ён бы «з лёгкасцю выйграў любыя сумленныя выбары». Уладзімір апісвае Кернеса як «асобу малаадукаваную, але харызматычную, сапраўднага бандыта, але і моцнага гаспадарніка».

А самае галоўнае — жыхары, мінчукі і харкаўчане, яны нібыта браты-блізняты. Павольныя, зважныя, даволі замкнёныя і нейкія гладзенькія. Абцякальныя, калі можна так сказаць пра чалавека.

Абдумваючы, адкуль бярэцца гэтая «абцякальнасць», я прыйшоў да высновы, што яна вынікае з нулявой калектыўнай ідэнтычнасці. У сэнсе нацыянальнай ці грамадзянскай прыналежнасці гэта «ніякія» людзі. «Пафігізм» — цалкам натуральны стан душы для такіх людзей, бо ён з'яўляецца прамым следствам адасобленасці.

Адзін з наведнікаў інтэрнэт-клубу, дзе я пішу гэты артыкул, нявольна падараваў мне яскравую ілюстрацыю. Разлічваючыся з адміністрата-


**Народнае веча 13 красавіка.** Фота Зміцера Галко

**У нядзелю, 13 красавіка, каля помніка Шаўчэнку сабралася абсалютна мірнае Народнае веча, дзе было ў тым ліку нямала малых дзяцей. Адзінай «зброяй» удзельнікаў былі святочныя вербныя галінкі**



рам, ён коратка абмеркаваў з ім апошнія ўкраінскія навіны, і дадаў: «У маім свеце нікога не калечаць і не забіваюць, у мяне ўсё добра».

Раней я падслухаў у забягалаўцы размову групы маладзёнаў, якія абмяркоўвалі Дзмітрыя Мядзведзева ў тэлевізары:

— Глядзі, нешта ён распаўнеў.

— Мо проста схуднеў на прэзідэнцкай пасадзе, цяпер ізноў форму набраў.

— Хлопцы, я вось думаю, а якая розніца, худы ён ці тоўсты, Мядзведзеў гэты?

— Хто ведае, мо будзе нашым прэм'ерам...

Яны не надта і хочуць бачыць яго сваім прэм'ерам, і нічога не будуць рабіць для таго, каб ён ім стаў, але і для таго, каб ён ім не стаў, рабіць яны таксама нічога не будуць. Бо ім, як кажуць украінцы, «па цымбалах».

Пажыўны булён сепаратысцкіх настрояў у паўднёва-ўсходніх рэгіёнах — не свядомая прыналежнасць да «рускага свету», а «ніякасць». Уласцівая і многім беларусам таксама...

### Украінцы двух гатункаў

Чаму ж столькі «ніякіх» людзей раптам вырашылі праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю, спытаецеся вы. Як бы хто ні ставіўся да прарасійскіх мітынгаў, а іх удзельнікі выходзяць для таго, каб праявіць менавіта яе.

Па-першае, «ніякія» людзі асабліва ўразлівыя да пераменаў і звязанай з імі няпэўнасці. Ім, як нікому, трэба адчуваць глебу пад нагамі. Паколькі ж рэвалюцыя ў Кіеве не была іх рэвалюцыяй, і не магла ёй быць, яе перамогу яны ўспрымаюць як крушэнне заведзенага парадку, надыход малога апакаліпсісу. Яны ў паніцы і ліхаманкава шукаюць полюс прыцягнення. І знаходзяць яго ў Пуціне. Яны б прынялі і ўкраінскага Пуціна, але яго няма і быць не можа, бо Майдан стаяў і стаіць за радыкальную дэмакратызацыю краіны.

Па-другое, яны адчуваюць сябе людзьмі другога гатунку ва Украіне. І пасля Майдана гэтае пачуццё ўзмацнілася да нясцерпнага болю. Расійская прапаганда гаворыць, што іх робяць людзьмі другога гатунку, але гэта не зусім так. Ва Украіне сапраўды былі людзі двух гатункаў, толькі не заходнікі і ўсходнікі, а ўлады і люд пасполіты. Аднак заходнікі заўсёды мелі адзін каштоўны прывілей, якога былі пазбаўленыя ўсходнікі, — моцную гістарычную, культурную і тэрытарыяльна-палітычную ідэнтычнасць.

Паколькі гэтая ідэнтычнасць была адзінай ва Украіне, на ёй і будавалася дзяржава. Нават Януковіч, гэтая гістарычная недарэчнасць, вымушаны быў абапірацца на яе.

### «Яны думалі, мы тут ліманадныя!»

У Беларусі вельмі слабая нацыянальная гравітацыя, і я добра ведаю па сабе, наколькі псіхалагічна цяжка можа быць чалавеку, чыя падсвядомая прага нацыянальнага не задавальняецца. І не мне адназу ў Беларусі вядома, што значыць жыць быццам у сваёй, але насамрэч зусім чужой дзяржаве.

Як ні парадаксальна гэта прагучыць, але свядомы беларус лягчэй мог бы зразумець «ніякага» жыхара паўднёва-ўсходняга рэгіёну Украіны. Гэтаму жыхару заўжды муляла немагчымасць далучыцца да «агульнадзяржаўнай» ідэнтычнасці, з якой вынікала адчуванне ўласнай адчужанасці ад дзяржавы і непаўнавартаснасці. Пры гэтым іх калектыўная асаблівая ідэнтычнасць была занадта слабой, у параўнанні з «агульнадзяржаўнай», каб канкураваць з ёй.

Я не сам гэта прыдумаў, высновы зроблены пасля шматлікіх размоваў з удзельнікамі прарасійскага мітынгу. Якім бы ні быў Януковіч, ён быў прэзідэнтам «ніякіх» людзей, то бок сваім. У іх жа спачатку «адабралі» яго ў 2005 годзе, цяпер «адабралі» яшчэ раз, ужо назаўсёды. І яны выйшлі помсціць за сваю падвойную фрустрацыю.

«Заходняя Украіна зрабіла Майдан, не спытаўшыся ў нас... Заўсёды мы ў іх былі то быдлам, то цітушкамі, цяпер каларадасы і сепаратысты... Яны думалі, мы ліманадныя тут, а мы ім паказалі! УПА — параша, перамога будзе наша!» — гэтым невялічкім калажам з цытатаў можна падсумаваць усе мае размовы з «ніякімі» людзьмі, якія вырашылі стаць хоць якімі-небудзь.

### Сляпая і жахлівая помста

Я пастараўся зразумець гэтых людзей, але дараваць ім я не магу, бо помста іх сляпая і жахлівая. Бачыў яе на ўласныя вочы ў мінулыя выходныя.

У суботу ўсе панічна баяліся шэсця, якое ладзілі футбольныя фанаты (т.зв. «ультрас») разам з праварадыкальнымі групоўкамі. Супраць Пуціна і за еднасць Украіны.

Баяліся абывацелі, баяліся каардынатары Майдану, баяліся прарасійскія актывісты, баяліся міліцыя і міліцэйскі міністр Авакаў. Каардынатары Майдану вырашылі не падтрымліваць шэсце «ні афіцыйна, ні неафіцыйна». Авакаў вырашыў аддаць загад затрымліваць аўтобусы з радыкаламі на пад'ездах да Харкава. Прадстаўнікі мясцовай міліцыі ў прыватных размовах казалі, што яны «гатовыя страляць». Каля помніку Леніна на плошчы Свабоды прарасійскія мітынгоўцы насіліся туды-сюды і біліся ў істэрыцы: «Калі мы нічога не зробім, нас тут усіх пазабіваюць!!!» Сварыліся паміж сабой, напрыклад, прагналі членаў арганізацыі «Боротьба» — нібыта марксісцкай, а на самай справе прарасійскай, — як «праплачаных прастытутак».

Урэшце ўсё прайшло цалкам мірна, калі не лічыць мацюкоў на адрас Пуціна. Удзельнікі шэсця нават не рабілі спробаў прарваць кардон міліцыі, які перакрываў шлях да помніку Леніна. А кардоны міліцыі, як мы ўсе бачым з навінаў, ва Украіне прарываюцца лёгка і нязмушана. Тым больш падрыхтаванымі людзьмі.

Я паразмаўляў з Арцёмам, прадстаўніком фанатаў з Луганска, наконт планаў, якія ў іх былі. Разам з іншымі луганскімі фанатамі ён прыехаў сюды, бо ў іх «з'явілася нацыянальная ідэя: адваліце ад нас, мы самі разбярэмся!». Арцём упэўнены, што мясцовыя жыхары выконваюць



**Узор савецкага авангарду. Фота Зміцера Галко**



**Сучасны роспіс сцяны прысвечаны Ландаў.** Фота Зміцера Галко



**Мітынг сепаратыстаў у Харкаве. 12 красавіка.** Фота Зміцера Галко

толькі ролю масоўкі ў прарасійскіх мітынгах, тады як сілавыя дзеянні ажыццяўляюцца праз расійскіх інструктараў і выканаўцаў. І ён распавёў, што фанаты хацелі ўсё зрабіць па сваёй фанацкай завядзёнцы — дамовіцца, каб «каларадасы» не нападалі на мірныя мітынгі, што яны неаднаразова рабілі, прызначыць ім сустрэчу ў аддаленым месцы, без тэлекамераў, і «зарубіцца». Тыя не пагадзіліся, сказалі, каб прыходзілі пад помнік Леніну, то бок пад тэлекамеры. Тады фанаты проста разышліся і раз'ехаліся. Усё, занавес.

У нядзелю, 13 красавіка, каля помніка Шаўчэнку сабралася абсалютна мірнае Народнае веча, дзе было ў тым ліку нямала малых дзяцей. Адзінай «зброяй» удзельнікаў былі святочныя вербныя галінкі. Ніякіх арганізаваных баявых груп, толькі Самаабарона, якая тут складаецца, нагадаю, з анархістаў — адчайных змагароў з фашыстамі.

Я не вялікі майстра апісваць баявыя дзеянні, даруйце, буду сцıслым. Шматтысячны натоўп свядома прыйшоў сюды біць безабаронных людзей, якіх было ледзь не ў дзесяць разоў меней. Як сведчаць відавочцы, якія прысутнічалі каля помніка Леніна, папярэдне там луналі заклікі «ісці забіваць майданутых». Яны ляцелі да помніку Шаўчэнкі як ашалелыя дзікі, равучы і рыкаючы.

Каардынатары Майдану прынялі адзінае правільнае рашэнне — ратаваць людзей, адвесці іх да бліжэйшай станцыі метро. Але спусціцца пад зямлю паспелі не ўсе. У бок тых, хто яшчэ заставаўся на паверхні, паляцелі дымавыя шашкі, узрыўпакеты, а потым і камяні. Як распавёў адзін з самаабаронаўцаў, спачатку яны спрабавалі выцягваць усіх параненых, але потым давялося пакідаць іх на месцы: «Бо атрымлівалася, што ты прыкрываешся параненым, як жывым шчытом...» Прарасійскія баявікі накінуліся на людзей з бітамі, гналі іх, збіваючы, па падземным пераходзе. Пэўны час Самаабарона ўтрымлівала дзверы ў метро, як кажа мой суразмоўца, ім дапамагаў адзін (!) міліцыянт, але дапамагаў сапраўды гераічна. Урэшце ачмурэлая гапата прарвалася на станцыю, дзе бойня працягнулася. Пры гэтым метрапалітэн абвясціў, што... станцыя зачыняецца, цягнікі спыняцца тут не будуць. Некаторыя ратаваліся, спускаючыся ў танэль, ідучы па рэйках.

Тым часам на паверхні вялізны натоўп атачыў Дом піянераў, дзе схавалася некалькі жанчын з Майдану. Тут гучалі заклікі нават... спаліць яго разам з «фашыстамі».

Пасля чаго яны рэшту дня маршыравалі па горадзе, выгукваючы «Еўропу ў жопу!», з асаблівым націскам на апошняе слова, якое ім яўна падабалася. Або што-небудзь арыгінальнае кшталту: «Усіх наркаманаў — у Львоў!». Апошняе крычалі нецвярозыя людзі.

### Шакалы

Але больш за ўсё мяне ўразіў выпадак, які адбыўся каля выхаду са станцыі метро «Радянська», непадалёк ад гарсавету. Я ўбачыў толькі яго фінал — мужчыну гадоў пяцідзесяці, з выгляду звычайнага рабацягу, якога лупіў бітай маладзён у масцы і з георгіеўскай стужкай на куртцы. На асфальце разлілася вялізная лужына крыві...

Калі яго затрымала міліцыя — яе даваліся адмыслова сюды цягнуць, самі яны нічога не бачылі і не чулі, — да іх падбегла маладзіца, якая блытана пачала распавядаць, што насамрэч гэта на іх кампанію, маладзёнаў з георгіеўскімі стужкамі, напаў «Правы сектар». А гэты вось збіты дзядзька яе асабіста першы ўдарыў. Нібыта за тое, што яна з гонарам носіць георгіеўскую стужку. Потым іншыя байцы з «Правага сектару» разбегліся, пакінуўшы дзядзьку аднаго. Ну, мы яго і таго... Маладзіца блытала ўсё: хто, калі, каго, колькі палак і ў каго. Ёй дапамагла група бамбізаў, таксама з георгіеўскімі стужкамі, якая хуценька аднекуль прыбегла і пачала гучна пацвярджаць усё, што казала дзеўчына: «Так, гэта «Правы сектар», фашысты, шакалы, толькі і могуць, што на мірных грамадзянаў нападаць, на дзяцей!»

Гэтыя словы дасюль гучаць у мяне ў вушах, настолькі абуральны цынізм таго, хто іх вымавіў.

На шчасце, сведкам ранейшых падзей аказаўся Ігар Паддубны, дэпутат харкаўскага гарсавету. Вось што ён распавёў:

«На маіх вачах каля аптэкі на Савецкай пяцёра адмарозкаў збілі мужчыну гадоў 55. Чалавек быў адзін і відавочна чакаў маршрутку. Павалілі яго на зямлю ўдарам ззаду. Білі нагамі і бітамі па галаве. Тым, хто нападаў, не было і 20 гадоў з выгляду. На рукавах георгіеўскія стужачкі. Што характэрна, чацвёра, уцякаючы ўверх па Пушкінскай, крычалі «Слава Украіне!».

Абапіраючыся на прыведзеныя дадзеныя, можна зрабіць выснову, што гэта была спланаваная правакацыя. І наўрад ці яе здзяйснялі «простыя грамадзяне». Магчыма, меў рацыю Арцём, фанат з Луганску, калі казаў, што ўсе сілавыя дзеянні ажыццяўляюцца заезджымі спецамі.

Калі гэта сапраўды так, губляюць сэнс усе агучаныя вышэй аргументы ў апраўданне прарасійскай актыўнасці ў паўднёва-ўсходнім рэгіёне. Яна мусіць быць спыненая — неадкладна і жорстка.

Але пакуль дзеянні ўладаў, як мясцовых, гэтак і цэнтральных, выклікаюць недаўменне. «Мы тут зараз — як тыя рыбкі ў акварыуме. Плаваем ад сценкі да сценкі, тыкаемся ў шкло і не ведаем — ці насыплюць нам корму, ці ўключаць кампрэсар або, можа, кіпяцільнік у ваду сунуць...» — як выказаліся харкаўскія журналісты.

# Дабром на злое

Генадзь КЕСНЕР

**Вярхоўны суд Беларусі 15 красавіка пацвердзіў смяротны вырак у дачыненні да 53-гадовага ўраджэнца Расіі Эдуарда Лыкава, якога звінавацілі ў забойстве пяці чалавек. Іншага рашэння айчыннай судовай сістэмы і чакаць не даводзілася.**

Беларусь упарта працягвае выносіць і выконваць расстрэльныя прысуды. Мы застаемся па-за сям'ёй цывілізаваных народаў, па-за кагортай краінаў, дзе чалавечае жыццё прызнана недатыкальным.

Так, ёсць вылюдкі, якія здзяйсняюць жахлівыя злачынствы. Але, выносячы ім смяротны вердыкт, дзяржава сама пераўтвараецца ў забойцу, забываючыся, што не яна давала жыццё таму, каго часам і чалавекам назваць цяжка.

Эксперты ў многіх краінах ужо даказалі, што наяўнасць ці адсутнасць смяротнага пакарання ніякім чынам не ўплывае на колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў. І забіваць таго, хто забіў іншага ці іншых, — не выйсце. Толькі сляпая помста.

Днямі мне давялося быць на мерапрыемстве з удзелам беларускіх журналістаў і юрыстаў. Менавіта тэму смяротнага пакарання ў Беларусі абмяркоўвалі мы цягам двух дзён. І сярод калегаў з незалежнай прэсы ёсць тыя, хто падтрымлівае існаванне смяротнага пакарання. І ў іх свае довады, часам слушныя. Але...

Заўсёды ёсць небяспека судовай памылкі, пра што сведчыць вядомая на ўвесь былы СССР справа маньяка Міхасевіча, больш вядомая як «Віцебская справа». Тады больш за дзесяць чалавек атрымалі вялікія тэрміны турэмнага зняволення, а аднаго нават расстралялі. І ўсе яны былі невінаватыя.

Шмат пытанняў засталося і пасля справы аб тэракце ў мінскім метро 11 красавіка 2011 года. Дагэтуль многія і многія не вераць, што гэты тэракт здзейснілі 25-гадовыя віцябляне Дзмітры Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў. Але дзяржава паспяшалася расстраляць юнакоў, нават не дачакаўшыся высноваў з Камітэту ААН па правах чалавека, які пазней пастанавіў, што Рэспубліка Беларусь парушыла права Кавалёва на жыццё (сваякі Канавалава ў гэтую міжнародную інстытуцыю не звярталіся).

Дарэчы, толькі цудам застаўся жывы Міхаіл Гладкі, які адседзеў некалькі гадоў за кратамі за забойства, якое не здзяйсняў, але якое ўчыніў згаданы вышэй Лыкаў шмат гадоў таму. А маглі б пусціць «у расход». І такіх выпадкаў досыць.

Гаворка нават не пра тое, што наяўнасць смяротнага пакарання перашкаджае Беларусі ўступіць у Савет Еўропы. Улады нашы і так туды не імкнуцца — чаму, гэта тэма іншай размовы. Не прыпадабняцца пачварам — задача цывілізаваных людзей. Дзяржава — тыя ж людзі, толькі абцяжараныя ўладай. Але ж хто і калі з уладатрымцаў задаваўся пытаннямі, як выкананне смяротнага прысуду ўплывае на псіхіку тых, хто страляе «смяротнікам» у патыліцу? Як пачуваюцца сваякі расстраляных, якім не выдаюць цела для пахавання, і нават не паведамляюць час прывядзення прысуду ў выкананне ды месца, дзе закапалі іх блізкага чалавека? Улады, якія такім чынам караюць і блізкіх злачынцы, гэта цікавіць менш за ўсё. Распараджацца не толькі лёсамі, але і жыццём сваіх падданых — гэта прывілея дзяржаваў з такім укладам, які сёння існуе ў Беларусі.




Мяне ў дакументальным фільме, прысвечаным смяротнаму пакаранню (рэжысёр Сяргей Ісакаў) вельмі ўразілі словы нарвежскага хлопчыка, які быў сведкам страшэннай трагедыі, калі Андэрс Брэйвік забіў больш за 70 чалавек, пераважна юнакоў і дзяўчат. «Мы не адкажам злом на зло, мы адкажам на зло дабром. І такім чынам мы пераможам зло, якое ты здзейсніў і якім ты ёсць», — напісаў забойцу падлетак.

Мо, хтосьці таксама і з нашых высокапастаўленых праўленцаў калісьці зразумее, што перамагчы зло можна толькі дабром?

# Ці дапаможа «ахоўны ліст»?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**З 16 красавіка ўступіў у дзеянне абноўлены закон «Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў». Галоўная ягоная навацыя — прафілактыка хатняга гвалту. Закон прадугледжвае даволі жорсткія меры да дэбашыраў, якія парушаюць спакой у сям'і.**



**Калі адзін сямейнік пастаянна ўціскае іншага, абражае яго, падымае на яго руку, стварае невыносныя ўмовы, да яго можна будзе прыняць чатыры асноўныя меры ўздзеяння. Гэта прафілактычная размова, афіцыйнае папярэджанне, прафілактычны ўлік і ахоўнае прадпісанне**

Хатні гвалт, лічаць праваахоўнікі — вялікая праблема для, здавалася б, ціхай і мірнай Беларусі. Напрыклад, колькасць асоб, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасці за правапарушэнні ў сферы сямейна-бытавых адносін, у 2013 годзе павялічылася на 4% у параўнанні з 2012-м. З зарэгістраваных у гэтым годзе забойстваў (113) блізкімі людзьмі здзейснена кожнае пятае. Гэтая праблема, нароўні з праблемай цяжкіх цялесных пашкоджанняў на падставе «бытавой сваркі», найбольш востра стаіць для сельскай мясцовасці, дзе зарэгістравана 36,8% такіх злачынстваў.

У адпаведнасці з новым законам, гвалт у сям'і — гэта «наўмысныя дзеянні фізічнага, псіхалагічнага, сэксуальнага характару члена сям'і ў адносінах да другога члена сям'і, якія парушаюць яго правы, свабоды, законныя інтарэсы і якія наносяць яму фізічныя і (або) псіхічныя пакуты». Іншымі словамі, калі адзін сямейнік пастаянна ўціскае іншага, абражае яго, падымае на яго руку, стварае невыносныя ўмовы, да яго можна будзе прыняць чатыры асноўныя меры ўздзеяння. Гэта прафілактычная размова, афіцыйнае папярэджанне, прафілактычны ўлік і ахоўнае прадпісанне. Ахоўнае прадпісанне тут — новая фішка. Але працэдура такой аховы даволі марудная.

Найперш, для таго, каб атрымаць «ахоўны ліст», трэба прайсці тры першыя этапы. Прафілактычная гутарка ў міліцыі амаль ні да чаго не абавязвае — грамадзяніна проста папярэджваюць, каб ён не рабіў глупстваў. Афіцыйнае папярэджанне — гэта ўжо пісьмовае тлумачэнне аб недапушчальнасці правапарушэнняў. Прафілактычны ўлік —назіранне за паводзінамі грамадзяніна. Усе тры этапы «ўздзеяння» зоймуць каля года.

Ахоўнае прадпісанне ж выносіцца толькі тады, калі, па-першае, усе тры этапы не далі вынікаў, а па-другое, калі чалавек ужо здзейсніў гвалт у сям'і і за гэта адміністрацыйна асуджаны. Прычым, адміністрацыйная кара павінна быць прызначаная толькі па трох артыкулах: дробнае хуліганства, абраза, пабоі і прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання, якое не прывяло да шкоды здароўю.

Ахоўным прадпісаннем грамадзяніну, у дачыненні да якога яно вынесена, забараняецца прадпрымаць спробы высвятляць месца знаходжання грамадзяніна, пацярпелага ад ягоных дзеянняў, калі той знаходзіцца ў месцы, невядомым агрэсару; наведваць месцы знаходжання пацярпелага; мець зносіны з пацярпелым, у тым ліку па тэлефоне і з выкарыстаннем інтэрнэту. Ахоўнае прадпісанне можа нават абавязаць агрэсара «часова пакінуць агульнае з ахвярай жылое памяшканне і не дазваляе распараджацца агульнай сумеснай уласнасцю». То бок, адсяліць гвалтаўніка ад ахвяры. Згаданыя абмежаванні могуць быць устаноўлены на тэрмін ад 3 да 30 сутак.

Што здзіўляе ў гэтым законе? Найперш, гэта тое, што трэба дачакацца «адміністрацыйна караных» дзеянняў агрэсара — то бок збіцця, моцнай абразы, хуліганства. Другое — «маруднасць» атрымання ахоўных мераў. І трэцяе — відавочна малы тэрмін «ахоўнага ліста». Першыя «папераджальныя меры» дзейнічаюць недзе на працягу года, і, калі «драпежнік» не звяртае ўвагі, то цяжка чакаць, што ён выправіцца за 30 дзён.

Ці не трэба было б хаця б зрабіць ахову больш працяглай у прасторы і ў часе? Як у Штатах, дзе забаронена набліжацца да асобы, пацярпелай ад хатняга гвалту, бліжэй за кіламетр?

«Патрэбнымі, але палавінчатымі» назваў гэтыя меры былы следчы, а зараз праваабаронца Алег Волчак. Праўда, зазначыў ён, да гэтага зменаў сітуацыя была ўвогуле ахавай — суд мог забараніць «хатняму драпежніку» толькі ўваходзіць у дом ахвяры, і больш амаль нічога. Праваабаронцу таксама непакоіць кароткі тэрмін «ахоўнага ліста», і тое, што гэты ліст выносіцца шляхам «расцягненага ўздзеяння» на гвалтаўніка. І яшчэ больш яго турбуе, што гэтыя «ахоўныя лісты» зноў кладуцца на плечы міліцыі: фактычна, на ўчастковых. «Гэта значыць, супрацоўнік міліцыі будзе і ажыццяўляць нагляд за выкананнем, і вызначаць, каму ахоўны ліст патрэбны, ён павінен быць і псіхолагам, і ў нейкай ступені сацыёлагам, і юрыстам. А ў нас міліцыянты не ўсе маюць нават юрыдычную адукацыю. Дзе мы возьмем настолькі падрыхтаваныя кадры?» — задаецца пытаннем Волчак.

Не кожны пацярпелы ад хатняга гвалту звернецца ў міліцыю, бо, з аднаго боку, сорамна выносіць «смецце з хаты». З іншага, не давяраюць нашы людзі міліцыянтам. Дый часцяком бывае і так, што спачатку жонка выкліча міліцыю на «сямейную сварку», а потым сама ж абараняе «суджанага» ад праваахоўнікаў.

Па меркаванні Волчака, «ахоўныя лісты» павінен выдаваць суд, і яны павінны быць больш працяглымі — ад 1 года да 1,5 гадоў, як у Даніі альбо Канадзе. Але ўсё ж такі трэба прымаць больш комплексныя меры ў барацьбе з хатнім гвалтам. «Гэта, канешне, «незаўважная» праблема нацыянальнага маштабу, і меры павінны быць адпаведныя. У нас ужо год шэсць у парламенце ляжыць някепскі закон аб супрацьдзеянні хатняму гвалту — з улікам міжнароднага досведу. У парламентароў да яго рукі ніяк не дойдуць. Трэба прымаць не «прафілактычныя дапаўненні», а цэльны закон альбо комплекс законаў у гэтым рэчышчы», — лічыць Волчак.




## 21 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Eurovision. Без каментатараў.
**09.15** Галоўны эфір.
**10.10** Клуб рэдактараў.
**10.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Лірычня камедыя «9 месяцаў» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Славянскі базар у Віцебску-2014. Нацыянальны адбор.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.30** Дакументальны цыкл «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.30** Беларуская часіна.
**18.35** Eurovision. Без каментатараў.
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.35** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

**ОНТ**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Справа ваша…».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Выспа Крым».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** АНТ прадстаўляе: «Канцэрт Прэзідэнцкага аркестра».
**23.20** Фільм «Каханне і іншыя акалічнасці».
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.40** «Такі лёс».
**12.30** «Чатыры вяселлі».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Далёкія сваякі».
**14.45** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.45** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Код доступу «Сафія» (ЗША, 2012 г.).
**22.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял „Двое з куфра-2» (Расія).
**10.00** Тэлебарометр.
**10.35** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік» (Расія).
**11.40** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**13.40** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**14.10** Спартовая меладрама «Джэры Магуайер» (ЗША).
**16.45** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра-2» (Расія).
**18.55** Іранічны дэтэктыў „Разумнік» (Расія). 1-я, 2-я серыі.
**20.50** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія). 1-я серыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.35** Серыял „Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.35** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**00.20** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік» (Расія).
**01.10** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**08.20** Дзіцячы фільм. «Чароўны голас Джэльсаміна». Паводле казкі Джані Радары. 1-я і 2-я серыі.
**10.30** «Дыя@блог». «Пра мову» з Навумам Гальпяровічам.
**11.00** Серыял. «Мегрэ».
**11.40** «Свято далёкай зоркі». Памяці народнага мастака БССР Валянціна Волкава.
**12.10** «Размаўляем па-беларуску».
**12.15** «Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча». Канцэрт. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**13.50** «Актрыса». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць заслужанай артысткі Беларусі Святланы Сухавей.
**14.20** «Росчырк часу». Бернардзінскія кляштары.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.35** «Цуды прыроды». Лаос. Ісландыя.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**15.25** «Есть только миг...» Аляксандр Чуланаў.
**15.50** «Ваенна-палявая пошта». Дакументальны фільм.
**16.15** «Размаўляем па-беларуску».
**16.20** «Сямейны альбом». Сям'я Карачун.
**16.35** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле аднайменнага твора Якуба Коласа.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**17.20** «Скарбніца Міншчыны». Гісторыя, культура і архітэктура мястэчка Сноў.
**17.50** «Тэатральны ліцэй». Астравок у Камергерскім.
**18.15** «Найменні і вобразы». Творчасць разьбяра Івана Супрунчыка.
**18.30** «Размаўляем па-беларуску».
**18.35** Мультфільм.
**18.55** «Кругі надзеі». Дакументальны фільм пра паэта Сяргея Грахоўскага.
**19.25** «Пейзажы скрозь час». Дом Фрэдэрыка Чэрджа ў Алана.
**19.55** Серыял. «Зорка эпохі». 5-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра мову» з Навумам Гальпяровічам.
**22.25** «Выпадковая сустрэча». Мастацкі фільм.
**23.30** «Свято далёкай зоркі». Памяці народнага мастака БССР Валянціна Волкава.
**23.55** «Калейдаскоп».
**0.05 «Сімвалы эпохі». Сталоўка.**
**0.20 «Есть только миг...» Аляксандр Чуланаў.**

**НТВ**

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** «Новыя рускія сенсацыі».
**09.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Гатуем».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**21.15** Серыял «Брацелікі».
**23.00** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**23.20** Сёння. Вынікі.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.05** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.35** Фітнес-шмітнес.
**08.55** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Івашчанка і Гэнік Лойка.
**09.25** Дакументальная гадзіна: «Невядомае жыццё Ісуса», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**10.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.15** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 11 серыя.
**12.05** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.30** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Івашчанка і Гэнік Лойка.
**13.05** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**13.40** «Людскія справы» (аўтарская прагра-

## 22 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Eurovision. Без каментатараў.
**09.15** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**10.55** Серыял «Парфюмерша» (Расія).
**11.55** Галявая перадача.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Лірычная камедыя «9 месяцаў» (Расія). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Галявая перадача.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Славянскі базар у Віцебску-2014. Нацыянальны адбор.
**16.30** Дакументальны цыкл «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.35** Eurovision. Без каментатараў.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Парфюмерша» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны дэтэктыў „Замах» (Беларусь - Расія). 3-я і 4-я серыі.
**23.35** Вечар цяжкага дня.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

**ОНТ**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05-15.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Выспа Крым».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Позняе раскаянне». Шматсерыйны фільм.
**23.05** Прэм'ера. Камедыя «Зусім не бабнік».
**00.45-01.15** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Ежа багоў».
**10.00** «Уявіце сабе».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-4». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Фантомны боль» (Германія, 2009 г.).
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Утаймаванне свавольнай» (Вялікабрытанія, 2005 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Ліван» (Ізраіль - Францыя - Ліван - Германія, 2009 г.).

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял „Двое з куфра-2» (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік» (Расія).
**11.55** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). 1-я, 2-я серыі.
**13.55** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**15.00** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**16.10** Вышэй за дах.
**16.40** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**17.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра-2» (Расія).
**18.55** Іранічны дэтэктыў „Разумнік» (Расія). 3-я, 4-я серыі.
**20.45** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія). 2-я серыя.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. «Рэал» - «Баварыя». Паўфінал. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**23.40** Серыял „Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.30** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Рускія сезоны на Захадзе.
**08.20** Серыял. «Зорка эпохі». 5-я серыя.
**09.15** «Дыя@блог». «Пра літаратуру» з Таццянай Сівец і Стэлай Чырковай.
**09.40** Серыял. «Мегрэ».
**10.30** «Свято далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра Уладзіміра Бычкова.
**10.55** «Размаўляем па-беларуску».
**11.00** «Выпадковая сустрэча». Мастацкі фільм.
**12.00** «Калейдаскоп».
**12.10** «Сімвалы эпохі». Рускія сезоны на Захадзе.
**12.25** «Настальжы». Жыццё і творчасць рэжысёра Барыса Уторава.
**12.50** Мультфільмы.
**13.10** «Размаўляем па-беларуску».
**13.15** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**13.45** «Скарбніца Гомельшчыны». Народная архітэктура Тураўскай зямлі.
**14.10** «Росчырк часу». Мастачка Марына Капілова.
**14.25** «Падарожжа са смакам». Вострaў Святога Марціна.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.05** «Сімвалы эпохі». Рускія сезоны на Захадзе.
**15.20** «Канструктывізм». Дакументальны фільм пра маскоўскі канструктывізм.
**15.50** «Маё кіно. Валерый Панамароў». Дакументальны фільм пра творчасць рэжысёра.
**16.15** «Размаўляем па-беларуску».
**16.20** «Палескі пачастунак». Закалота.
**16.35** «Цуды прыроды». Карыбы. Аўстралія.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Рускія сезоны на Захадзе.
**17.25** «Янка Купала... Я адплаціў народу». Дакументальны фільм.
**17.50** «Карані». Жанчыны Кішынёва.
**18.20** «Імгненні музейнай цішыні». Дакументальны фільм.
**18.40** «Пра тое, як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію». Кароткаметражны фільм па апавяданнях Данііла Хармса.
**19.05** «Размаўляем па-беларуску».
**19.10** «Плошча мастацтваў». Кампазітар, народны артыст Беларусі Валерый Іваноў.
**19.40** «На прыродзе з Віталём Гуменным». Тураўскі луг і яго насельнікі.
**19.55** Серыял. «Зорка эпохі». 6-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру» з Таццянай Сівец і Стэлай Чырковай.
**22.30** «Пацалунак». Мастацкі фільм па матывах апавядання А.П.Чэхава.
**23.35** «Свято далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра Уладзіміра Бычкова.
**0.05 «Калейдаскоп».**
**0.10 «Сімвалы эпохі». Рускія сезоны на Захадзе.**

**НТВ**

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40- 15.10** Прафілактыка на канале.
**15.10** «Справа густу».
**15.35, 18.35, 23.00** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00, 19.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**21.15** Серыял «Брацелікі».



## 23 КРАСАВІКА, СЕРАДА



**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Eurovision. Без каментароў.
**09.15** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). 3-я і 4-я серыі.
**10.55** Серыял «Парфюмерша» (Расія).
**11.55** Галявая перадача.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Галявая перадача.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Славянскі базар у Віцебску-2014. Нацыянальны адбор.
**16.30** Дакументальны цыкл «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.30** Беларуская часіна.
**18.35** Eurovision. Без каментароў.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Парфюмерша» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны дэтэктыў „Замах" (Беларусь - Расія). 5-я і 6-я серыі.
**23.35** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Выспа Крым».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Позняе раскаянне». Шматсер.фільм.
**23.05** Фільм «Апошні кароль Шатландыі».
**01.20** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-4». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Утаймаванне свавольнай» (Вялікабрытанія, 2005 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Халасцяк» (ЗША, 1999 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** Фільм «Цяга» (Францыя, 2009 г.).



**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял „Двое з куфра-2" (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Я - цэлаахоўнік» (Расія). Заключная серыя.
**11.45** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**13.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.15** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**15.20** Рэпарцёр.
**16.05** Імперыя песні. На біс.
**16.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра-2» (Расія).
**18.55** Іранічны дэтэктыў „Разумнік" (Расія). 5-я, 6-я серыі.
**20.45** Чэмпіянат свету па футболе 2014.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. «Атлетыка» - «Чэлсі». Паўфінал. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**23.40** Серыял „Рэальныя мальцы" (Расія).
**00.35** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.



**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Трайны адэкалон.
**08.20** Серыял. «Зорка эпохі». 6-я серыя.
**09.15** «Дыя@блог».«Пра прыгожае» з Крысцінай Смольскай.
**09.40** Серыял. «Мегрэ».
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастачкі Аляксандры Паслядовіч.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Пацалунак». Мастацкі фільм па матывах апавядання А.П.Чэхава.
**12.10** «Калейдаскоп».
**12.20** «Сімвалы эпохі». Трайны адэкалон.
**12.30** «Загадкі літаратуры». Невядомы Шэкспір.
**13.00** «Музеум». Слуцкія паясы.
**13.15** «Кола». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання А.Дударава «Святая птушка».
**13.35** «Чырвоны д'ябал». Дакументальны фільм пра легендарнага лётчыка Івана Яўграфавіча Фёдарава, героя вайны ў Іспаніі і Вялікай Айчыннай вайны.
**13.55** «Размаўляем па-беларуску».
**14.05** «Настальжы». Народны артыст СССР, балетмайстар, харэограф Валянцін Елізар'еў.
**14.30** «Карані». Беларуская школа ў в.Нарва (Польшча).
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.05** «Сімвалы эпохі». Трайны адэкалон.
**15.20** «Падарожжа са смакам». Крыт.
**15.50** «Скарбніца Міншчыны». Івянецкія святыні.
**16.15** «Размаўляем па-беларуску».
**16.25** «Адлюстраванні». Мадоны Максіма Багдановіча.
**16.45** «Краіна лясоў і азёраў». Дакументальны фільм.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Трайны адэкалон.
**17.25** «Плошча мастацтваў». Манументальны дэкор Валерыя Даўгяла.
**17.50** «Палескі пачастунак». Сыр.
**18.05** Мультфільм.
**18.25** «Наша спадчына». Кармянская святыня.
**18.40** «Званяць, адчыніце дзверы. Аляксандр Міта». Дакументальны фільм.
**19.05** «Цуды прыроды». Емен. Аман. Індыйскі акіян.
**19.30** «Размаўляем па-беларуску».
**19.35** «Прастора Яўгена Лысіка». Творчасць мастака-сцэнографа.
**19.55** Серыял. «Зорка эпохі». 7-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог».«Пра прыгожае» з Крысцінай Смольскай.
**22.35** «Атэла». Мастацкі фільм паводле аднайменнай п'есы У.Шэкспіра.
**0.20 «Святло далёкай зоркі». Памяці мастачкі Аляксандры Паслядовіч.**
**0.45 «Калейдаскоп».**
**0.55 «Сімвалы эпохі». Трайны адэкалон.**



**06.45** «Таямнічая Расія».
**07.30** «Іх норавы».
**08.05** «Цуд тэхнікі».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**21.20** Серыял «Брацэнікі».
**23.00** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.45** Серыял «Дзікі».

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**10.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Сапернік ці супернік?.
**10.40** Назад у будучыню (гістарычная пра-

## 24 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР



**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Eurovision. Без каментароў.
**09.15** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). 5-я і 6-я серыі.
**10.55** Серыял «Парфюмерша» (Расія).
**11.55** Галявая перадача.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Галявая перадача.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Славянскі базар у Віцебску-2014. Нацыянальны адбор.
**16.30** Дакументальны цыкл «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.30** Беларуская часіна.
**18.35** Eurovision. Без каментароў.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Парфюмерша» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны дэтэктыў „Замах" (Беларусь - Расія). Заключная серыя.
**23.35** Вечар цяжкага дня.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Смешнае і яшчэ смяшней».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Позняе раскаянне». Шматсер.фільм.
**23.05** Фільм «Добры год».
**01.15** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-4». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Халасцяк» (ЗША, 1999 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Жонка астранаўта» (ЗША, 1999 г.).
**22.20** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Эль Грэка» (Грэцыя - Іспанія, 2007 г.).



**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял „Двое з куфра-2" (Расія).
**10.05** Заўтра - гэта мы!
**10.35** Камедыя «Шукайце жанчыну» (СССР). 1-я серыя.
**12.10** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). 5-я, 6-я серыі.
**14.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**15.10** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**15.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.05** Аўтабатл.
**16.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра-2» (Расія).
**18.55** Іранічны дэтэктыў „Разумнік" (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**20.45** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія). 3-я серыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. На шляху да чэмпіянату свету па футболе-2014.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Севілля - Валенсія. Паўфінал. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**00.00** Серыял „Рэальныя мальцы" (Расія).
**00.50** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.



**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Агітацыйны плакат.
**08.20** Серыял. «Зорка эпохі». 7-я серыя.
**09.15** «Дыя@блог». «Пра вечнае» з Аляксандрам Цярэшчанкам.
**09.40** Серыял. «Мегрэ».
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Станіслава Ларчанкі.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.10** «Атэла». Мастацкі фільм паводле аднайменнай п'есы У.Шэкспіра.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Сімвалы эпохі». Агітацыйны плакат.
**13.15** «Цуды прыроды». Ізраіль.
**13.45** «Настальжы». Жыццё і творчасць заслужанай артысткі Беларусі Любові Румянцавай.
**14.10** Мультфільм.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.35** «Тэатральны ліцэй». Аб розных прафесіях, з якіх складаецца тэатр: рэжысёры, акцёры, мастакі, асвятляльнікі, гукарэжысёры.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Сімвалы эпохі». Агітацыйны плакат.
**15.25** «Адлюстраванні». Леў Сапега.
**15.45** «Незнаёмая песня». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Васіля Хомчанкі.
**16.10** «Размаўляем па-беларуску».
**16.20** «Росчырк часу». Мастак Аляксей Літвін.
**16.35** «Камертон». Віртуоз ігры на акардэоне Пётр Дранга.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Агітацыйны плакат.
**17.20** «Падарожжа са смакам». Дамініканская рэспубліка.
**17.55** «Паясы Вялікага князя Вітаўта». Дакументальны фільм.
**18.35** «На прыродзе з Віталём Гуменным». Запясочча.
**18.50** «Карані». Беларуска Валянціна Іванова, якая жыве ў Літве.
**19.20** «Размаўляем па-беларуску».
**19.25** «Скарбніца Гомельшчыны». Сімволіка разьбянога дэкору.
**19.55** Серыял. «Зорка эпохі». 8-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра вечнае» з Аляксандрам Цярэшчанкам.
**22.30** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.
**0.05 «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Станіслава Ларчанкі.**
**0.35 «Калейдаскоп».**
**0.40 «Сімвалы эпохі». Агітацыйны плакат.**



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.30, 23.00** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**21.20** Серыял «Брацэнікі».
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.45** Серыял «Дзікі».

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма): Права да веры.
**10.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.55** «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**11.50** Невядомая Беларусь: «Сейбіт», дак. фільм, 2014, Польшча.
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.55** Маю права (юрыдычная праграма).

TV

## 25 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Eurovision. Без каментароў.
**09.15** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). Заключныя серыі.
**10.55** Серыял «Парфюмерша» (Расія).
**11.55** Галявая перадача.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Галявая перадача.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.20** Дакументальны цыкл «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.05** Eurovision. Без каментароў.
**18.10** Таямніцы следства.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**20.00** Меладраматычны серыял «Парфюмерша» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прыгодніцкі фільм «Піраты Карыбскага мора: Куфар мерцвяка» (ЗША).
**01.10** Дзень спорту.
**01.25** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Камедыя «Іван Васільевіч змяняе прафесію».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Справа ваша…».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** «Вучыцца жыць».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Выспа Крым».
**16.55** «Школьны здаровы лад жыцця».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.20** Фільм «З Парыжа з каханнем».
**00.00** Вострасюжэтны фільм «Хуткасць 2».
**02.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-4». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Жонка астранаўта» (ЗША, 1999 г.).
**15.50** «Не хлусі мне!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Міс ніхто» (ЗША, 2010 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.50** «Вялікая гульня». Покер.
**00.35** Фільм «Рок-н-рольшчык» (ЗША - Вялікабрытанія, 2008 г.).

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял „Двое з куфра-2» (Расія).
**10.10** Стыль-бюро.
**10.50** Камедыя «Шукайце жанчыну» (СССР). 2-я серыя.
**12.15** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**14.10** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**14.45** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.00** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра-2» (Расія).
**18.55** Фантастычны фільм «Чалавек-павук-3: вораг у адлюстраванні» (ЗША).
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.45** Рэпарцёр.
**23.35** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**00.30** Псіхалагічны трылер «Кошт страсці» (ЗША).

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Гандлёвая сетка «Бярозка».
**08.20** Серыял. «Зорка эпохі». 8-я серыя.
**09.15** «Сіла веры».
**09.40** Серыял. «Мегрэ».
**10.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Анатоля Волкава.
**10.55** «Размаўляем па-беларуску».
**11.00** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.45** «Сімвалы эпохі». Гандлёвая сетка «Бярозка».
**13.00** «Скарбніца Міншчыны». Гісторыя, культура і архітэктура мястэчка Даўгінава.
**13.25** «Росчырк часу». Мастак Сяргей Кухто.
**13.40** «Дэбют». Кароткаметражны фільм.
**14.10** «Размаўляем па-беларуску».
**14.15** «Наша спадчына». Пахавальня ў Суботніках.
**14.30** «Падарожжа са смакам». Барселона.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Сімвалы эпохі». Гандлёвая сетка «Бярозка».
**15.20** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Барыс Плотнікаў. «Узыходжанне».
**15.50** «Палескі пачастунак». Кулага і фаршыраваная бульба.
**16.05** «Размаўляем па-беларуску».
**16.10** «Карані». Скіт у Адрынках. Дзейнасць архімандрыта Гаўрыіла.
**16.35** «Цуды прыроды». Шатландыя. Байкал. Андалузія.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Гандлёвая сетка «Бярозка».
**17.25** «Плошча мастацтваў». Педагог, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Вячаслаў Паўлюць.
**17.50** Мультфільм.
**18.10** «Любоў і жыццё маё…». Дакументальны фільм пра кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.
**18.40** «Музеум». Гістарычны партрэт.
**18.55** «Палета вольнае упорство…» Дакументальны фільм пра творчы шлях балерыны, народнай артысткі СССР Маі Плісецкай.
**19.25** Прэм'ера. «Неба ўсюды аднолькавае». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Сіла веры».
**22.30** Шлягеры на ўсе часы. «Запомні гэтае імгненне». Канцэрт з твораў Мікаэла Тарывердзіева.
**23.50** «АРТиШОК». Тэатр сучаснай харэаграфіі - D.O.Z.S.K.I.
**0.15 «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Анатоля Волкава.**
**0.40 «Калейдаскоп».**
**0.50 «Сімвалы эпохі». Гандлёвая сетка «Бярозка».**

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**22.15** Серыял «Дзікі».
**23.50** Дэтэктыў «Канец свету».
**01.20** «Авіятары».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 00.05, 02.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 26 КРАСАВІКА, СУБОТА

### 1 Беларусь

**05.25** Існасць.
**05.50** Прэм'ера! Меладрама «Тры таварышы» (Расія). 1-я-4-я, заключная, серыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Дача.
**12.10** Славянскі базар у Віцебску-2014. Нацыянальны адбор.
**12.15** Здароўе.
**13.00** Даверай і правярай.
**13.35** Журналісцкае расследаванне.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Мірны тур.
**15.50** Даверай і правярай.
**16.20** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.25** Меладрам «Шалапутная нявестка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Гісторыя «Круты паварот» (ЗША).
**23.40** Дзень спорту.
**23.50** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).
**00.40** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Фільм «Не меў клопату…».
**14.05** «І гэта ўсё пра яе…».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «І гэта ўсё пра яе…» Працяг.
**16.45** «Ала Пугачова - мая бабуля».
**17.45** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.35** АНТ прадстаўляе: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Конкурс «Тэлевяршыня».
**23.15** «Што? Дзе? Калі?».
**00.35** «Вялікі пост».

### ТВ

**06.15** «Студэнты». Серыял.
**07.55** Фільм «Міс ніхто» (ЗША, 2010 г.).
**09.40** «Чыстая праца».
**10.35** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Ніхто не заменіць цябе» (СССР, 1982 г.).
**14.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.35** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Тры метры над узроўнем неба» (Іспанія, 2010 г.).
**22.25** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.30** Фільм «Знахар» (Польшча, 1981 г.).
**01.45** «Вялікія таямніцы вечных бітваў».

### 2 Беларусь

**07.30** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.25** Тэлебарометр.
**08.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.45** Беларуская кухня.
**10.30** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў- праграма (Расія).
**11.00** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.30** Вышэй за дах.
**14.05** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**15.15** Камедыя «Шукайце жанчыну» (СССР). 1-я і 2-я серыя.
**18.00** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне» (Расія).
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**21.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**00.10** Прыгодніцкі баявік «Скарб Амазонкі» (ЗША).

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Сімвалы эпохі». Піянерскі лагер «Артэк».
**08.20** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Іллі Данілавіча Гурскага.
**08.25** «Таямніца душы». Ці гаворыць Бог праз сны.
**08.55** «АРТиШОК». Тэатр сучаснай харэаграфіі - D.O.Z.S.K.I.
**09.25** Прэм'ера. «Неба ўсюды аднолькавае». Мастацкі фільм.
**10.45** «Наперад у мінулае».
**11.10** «Калейдаскоп».
**11.20** «Сімвалы эпохі». Піянерскі лагер «Артэк».
**11.30** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Іллі Данілавіча Гурскага.
**11.40** «Свет прыроды». Лесабалотны комплекс Чырвоны бор.
**12.05** «Шчасце Алены». Сцэнарыст і рэжысёр Алена Турава.
**12.25** «Размаўляем па-беларуску».
**12.35** «Плошча мастацтваў». Мастак - гэта лёс… Творчасць мастака Васіля Касцючэнкі.
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.05** «Сімвалы эпохі». Піянерскі лагер «Артэк».
**13.20** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Іллі Данілавіча Гурскага.
**13.25** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Міхася Лынькова.
**13.50** «Карані». Паэты Кішынёва.
**14.15** «Размаўляем па-беларуску».
**14.25** Мультфільм.
**14.45** «Я помню». Мастацкі фільм.
**16.10** Шлягеры на ўсе часы. «Запомні гэтае імгненне». Канцэрт з твораў Мікаэла Тарывердзіева.
**17.25** «Калейдаскоп».
**17.35** «Сімвалы эпохі». Піянерскі лагер «Артэк».
**17.45** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Іллі Данілавіча Гурскага.
**17.55** «Размаўляем па-беларуску».
**18.00** «Сола для трубы». Дакументальны фільм пра вядомага музыканта Э.Рознера.
**18.45** «Увесь гэты джаз». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Сталкер». Па матывах аповесці братоў Стругацкіх «Пікнік на абочыне». 1-я і 2-я серыі.
**23.45** «Гісторыя беларускай оперы». Дакументальны фільм пра Нацыянальны Акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**0.40 «Калейдаскоп».**
**0.45 «Сімвалы эпохі». Піянерскі лагер «Артэк».**
**01.00** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Іллі Данілавіча Гурскага.

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** «Выратавальнікі».
**14.00** Прамая трансляцыя з Ерусаліма.
**15.00** «Я худнею».
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.45** «Горад-забойца». Навуковае расследаванне.
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.55** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** Вострасюжэтны фільм «Мянтоўскія войны. Эпілог».
**23.50** Крымінальная меладрама «Бацькі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**10.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.45** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 9 серыя.
**11.10** Два на два (тэледыскусія): Усевалад Сцебурака і Юрась Беленькі.
**11.45** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**12.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.05** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**14.00** «Чарнобыльскія званы», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**15.05** «Сага стардаўняй пушчы», дак. серыял.
**15.55** «Статысты», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**17.50** Беларусы ў Польшчы.
**18.05** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстыч-

TV

## 27 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ



**05.55** Меладрама «Шалапутная нявестка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мірны тур.
**15.50** Eurovision. Вынікі тыдня.
**16.10** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.20** Меладрам «Тры таварышы» (Расія). 1-я-4-я, заключная, серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Крымінальны трылер «Вясна ў Парыжы» (Францыя).
**00.05** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).



**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**12.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.20** «Лятучы карабель». Мультфільм.
**13.50** «Здабытак Рэспублікі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Высокі бландын у чорным чаравіку».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**00.00** Фільм «127 гадзін».



**06.05** «Студэнты». Серыял.
**07.45** Фільм «Тры метры над узроўнем неба» (Іспанія, 2010 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Адзін і без зброі» (СССР, 1984 г.).
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера! «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Пра Шміта» (ЗША, 2002г.).
**23.00** Шоў «Арганізацыя Вызначаных Націй».
**00.30** Фільм «Хованка» (Ірландыя, 2011 г.).
**02.10** «Глядзець усім!».



**07.40** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.35** Тэлебарометр.
**08.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.55** Заўтра - гэта мы!
**10.30** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.05** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне».
**14.15** Аўтабатл.
**14.50** Стыль-бюро.
**15.30** Фантастычны фільм «Чалавек-павук 3: вораг у адлюстраванні» (ЗША).
**18.00** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Цела чалавека.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.25** Эксцэнтрычная камедыя «Маленькі гігант вялікага сэксу» (СССР).
**01.00** Хакей для ўсіх.



**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Сола для трубы». Дакументальны фільм пра вядомага музыканта Э.Рознера.
**08.55** «Увесь гэты джаз». Мастацкі фільм.
**10.50** «Калейдаскоп».
**11.00** «Гісторыя беларускай оперы». Дакументальны фільм пра Нацыянальны Акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**11.55** С.Пракоф'еў. «Маддалена». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**12.40** «Размаўляем па-беларуску».
**12.45** «Росчырк часу». Фотамастак Мірон Шчудло.
**13.00** «Госць». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Я.Сіпакова «Госць у сенажаць».
**13.30** «Калейдаскоп».
**13.35** «Падарожжа са смакам». Францыя.
**14.10** «Размаўляем па-беларуску».
**14.15** Мультфільм.
**14.30** «Творцы». Народны артыст Беларусі, рэжысёр Канстанцін Саннікаў.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Тэатральны ліцэй». Юнацтва - гэта адплата.
**15.30** «Размаўляем па-беларуску».
**15.35** «Пра каханне...» Драматычная гісторыя Барбары Радзівіл і Караля Жыгімонта II Аўгуста, якая разгортвалася ў XVI стагоддзі.
**16.05** «Наперад у мінулае».
**16.35** Дзіцячы фільм. «Чэснае чароўнае».
**17.40** «Культпрасвет».
**18.10** Сусветнае кіно. «Сталкер». Па матывах аповесці братоў Стругацкіх «Пікнік на абочыне». 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** «Споведзь». Творчы вечар народнага артыста Расіі Мікалая Бурляева.
**22.05** «Ваенна-палявы раман». Мастацкі фільм.
**23.35** «Культпрасвет».
**0.00 «Калейдаскоп».**



**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачныя адказ».
**13.15** «Таямнічая Расія».
**14.10** «Хрушчоў. Першы пасля Сталіна».
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.40** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Фільм «Дуброўскі».
**23.55** «Школа зласлоўя».
**00.40** «Авіятары».



**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 1 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Беларусы ў Польшчы.
**09.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма): Права да веры.
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Невядомая Беларусь: «Чарнобыль для Еўропы», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**10.55** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**11.35** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 9 серыя.
**12.00** «Таямніца Сагалі», серыял: 1 серыя.
**12.30** «Жанчыны гары Арарат», дак. фільм, 2004 г., Францыя.
**13.25** Фітнес-шмітнес.
**13.45** «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**14.40** «Шараговец Джэйн», маст. фільм, 1995 г., ЗША.
**16.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 12 серыя.
**17.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.55** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валенцій Ваньковіч.
**19.15** Форум (ток-шоу): Урокі Майдана. Адкуль бяруцца рэвалюцыі?.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** Дакументальная гадзіна: «Ян Павал II і ягоны сябар», дак. фільм, 1999 г., Польшча.
**21.25** Фільматэка майстроў: «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

Новы час novychas.info
**Для тых, хто прымае рашэнні!**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

# Харкаў мусіць стаць украінскім Сталінградам



Зміцер ГАЛКО

**Харкаў — гэта ўкраінскі Сталінград. У тым сэнсе, што стаўкі сапраўды вельмі высокія. Калі адняць Харкаў ад Украіны, на наступны ж дзень яна стане аграрнай дзяржавай.**

Пра сітуацыю ў Харкаве мы пагутарылі з Аляксандрам Філоненкам, выпускніком Харкаўскага нацыянальнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «экспериментальная ядзерная фізіка», а цяпер кандыдатам філасофскіх навук, дацэнтам кафедры тэорыі культуры і філасофіі навукі філасофскага факультэта ХНУ. Ён неаднаразова прыязджаў у Беларусь з лекцыямі, дзе я з ім і пазнаёміўся калісьці.

Вось што напісана пра яго ў студэнцкіх водгуках на ўніверсітэцкім сайце: «Выдатны спецыяліст, грошай не бярэ, з ім не засумуеш... жывыя, прыгожыя, як рок-канцэрты, лекцыі, шануе хутчэй стыль і дапытлівасць, чым зубрылаў, размаўляць з ім адно задавальненне». Апошняе я магу цалкам пацвердзіць.

Аляксандр — не з тых філосафаў, што «лунаюць у аблоках», не зважаючы на навакольную рэчаіснасць. Ён — удзельнік Харкаўскага грамадскага форума, арганізацыі, створанай для «эфектыўнага кантролю за дзеяннямі ўсіх галінаў улады».

### З Харкава хочуць зрабіць Луганск, Славянск і Краматорск

Мой суразмоўца адразу ж дэманструе сваю абазнанасць у бягучых падзеях, кажучы: «Ёсць інфармацыя з вартых даверу крыніцаў, што ў перыяд ад Вялікадня да 9 мая Расія запланавала грамадзянскую вайну ва Украіне, якая мае скончыцца канчатковай і бязлітаснай «перамогай над фашызмам». У найбліжэйшы час з Харкава паспрабуюць зрабіць Луганск, Славянск і Краматорск адначасова. Адпусцілі па дамах супрацоўнікаў СБУ з табельнай зброяй, вядуць працу сярод мянтоў, каб яны сумесна з антымайданаўцамі мачылі ўсіх, хто актыўна выступае за Украіну. З мясцовымі мянтамі ўсё вельмі кепска. У найлепшым выпадку гэта мацёрыя хабарнікі, якія не хочуць падстаўляць башку за адносна невялікі заробак. Ці дэзарыентаваныя людзі, што не ведаюць, як ім сябе паводзіць. Многа ж такіх, хто адкрыта за «Пуцін — наш прэзідэнт».

— Але мы выстаім... мусім выстаяць. Харкаў — гэта ўкраінскі Сталінград. У тым сэнсе, што стаўкі сапраўды вельмі высокія. Калі адняць Харкаў ад Украіны, на наступны ж дзень яна стане аграрнай дзяржавай. Можа, і някепскай, але аграрнай. Днепрапятроўскія ракеты не лятаюць без «Хартрона» (ПАА «Хартрон» займаецца сістэмамі кіравання для ракетна-касмічнай тэхнікі — НЧ), усё электроннае начынне робіцца ў нас. Ядзерную зброю могуць сабраць толькі ў Харкаве. Гэта індустрыяльная і хайтэкаўская сталіца. Натуральна, Расія таксама вельмі зацікаўлена ў тым, каб яго «скрымздзіць» (украінскі неалагізм, які азначае «выкрасці нахабна, з асаблівым цынізмам, грэбуючы ўсімі законамі, у тым ліку маральнымі, і рабіць выгляд, што ты маеш рацыю» — НЧ).

Пры гэтым, дадае Аляксандр, Харкаву незаслужана мала, па «рэшткавым прынцыпе», надаецца ўвагі ў цэнтры. Калі ён і згадваецца, дык «у сувязі з якім-небудзь дзярмом». Мой суразмоўца кажа, што вядзе «гуманітарную вайну за твар гораду», каб замест твараў Добкіна і Кернеса нарэшце ўбачылі сапраўдны Харкаў.

### Фашызм у савецкай абгортцы

Апроч гэтага, ён думае над тым, як зрабіць, каб 9 мая не ператварылася ў чарговае «перамогашальства» пад георгіеўскімі стужкамі. Па словах Аляксандра, «нельга не адсвяткаваць» гэту дату, як нельга і «будаваць зараз прапаганду на жорсткім супрацьстаянні савецкаму мінуламу», але яго можна і трэба пераасэнсоўваць. Выпрацаваць новы стандарт і падыход да 9 мая — як да дня памяці.

Адным з мерапрыемстваў у рамках гэтай задачы будзе выступ у Харкаве Адрыяна Дэль Аста, дырэктара Італьянскага інстытута культуры ў Маскве, прысвечаны Васілю Гросману. Савецкаму пісьменніку і журналісту, ваеннаму карэспандэнту, аўтару рамана «Жыццё і лёс».

Раман-эпапея аб падзеях Вялікай Айчыннай вайны быў канфіскаваны ў 1961 годзе Камітэтам дзяржбяспекі, цудам захаваны і ўпершыню апублікаваны толькі ў 1980 годзе за мяжой. Кніга накіравана супраць таталітарызму — як нацысцкага, так і савецкага.

— У Расіі зрабілі серыял па раману Гросмана, але выкінулі ўсё самае цікавае. Напрыклад, размову эсэсаўца з камуністам. Там капец проста. У канцлагеры эсэсавец пытаецца ў паставога-камуніста: «Навошта вы супраць нас ваюеце? Мы ж вашы вучні, і мы павінны трымацца разам. Калі мы пераб'ем адзін аднаго, гэта толькі на руку Амерыцы».

На думку майго суразмоўцы, сённяшняя Расія яскрава дэманструе зараз блізкасць дзвюх таталітарных сістэмаў. Бо ў ёй запанаваў «фашызм, стылістычна аформлены ў настальгічныя савецкія тоны». Прага да страчанай мінулай велічы, увогуле арыентацыя на мінулае, пошук знешніх і вонкавых ворагаў, геапалітычнае мысленне — з гэтага, кажа Аляксандр, складаецца ідэалогія пуцінскай Расіі.



**Аляксандр Філоненка.** Фота з сямейнага архіва

— Украіна не хоча ні з кім ваяваць, яна шукае шлях да адкрытасці свету, да будучыні. У яе няма двух міфалагемаў, на якіх трымаецца расійскі рэваншызм. Гэта «веліч» і «ворагі». Вы рэдка пачуеце ад украінца, каб ён тлумачыў наяўныя праблемы тым, што «ў нас была вялікая краіна, якую мы страцілі» і ёсць «вялікія ворагі, якія жадаюць нам зла».

Менавіта тут, лічыць Аляксандр, і праходзіць сапраўдная лінія падзелу, у тым ліку ўнутры самой Украіны. Яна не геаграфічная і не моўная, а гэта жаданне жыць у мінулым супраць жадання рухацца ў будучыню. Нягледзячы на тое, што сучасная Расія мае мала агульнага з СССР, Пуціну ўдалося стаць «стылістычным увасабленнем мараў аб ім».

### Якую памяць будуць зачышчаць бандэраўцы?

Цікава, што для маладых антымайданаўцаў, расказвае Аляксандр, якія таксама нібыта стаяць за СССР, абаранняюць памяць пра яго, гэта проста «гіганцкая пустая абалонка». Насамрэч, яны вельмі мала пра яго ведаюць.

— У мяне сярод студэнтаў ёсць некалькі ўдзельнікаў Антымайдану. Я ім кажу на лекцыі: бандэраўцы яшчэ не прыйшлі, але вы ўжо баіцеся, што яны зачысцяць вашу памяць. Давайце, пакуль яны не прыйшлі, адновім яе. Колькі фільмаў пра вайну, напрыклад, вы ведаеце? За паўгадзіны яны з цяжкасцю прыгадалі два. Добра яшчэ, што не дзярмо якое-небудзь. «Афіцэры» і «У бой ідуць адны старыя». Кнігі яны не змаглі згадаць ніводнай, музыкі таксама. Нічога не ведаюць пра бітву за Харкаў і яго жудасную блакаду... Я пытаюся тады: слухайце, дык якую памяць у вас будуць зачышчаць бандэраўцы, калі яна і без таго чыстая?

Ці Леніна яны абараняюць на плошчы Свабоды. А вас, кажу, лёс Леніна, які знаходзіцца побач, на адлегласці 300 метраў, у парку, не непакоіць? Ён там стаіць, дакладней, сядзіць, на дзіцячай пляцоўцы сярод мядзведзікаў, рыбак і да т.п. Гепа сцягнуў туды скульптуры з савецкіх дзіцячых садкоў. Маленькі Валодзя Ульянаў, такі, як на акцябрацкай зорачцы, сядзіць там з кніжкай. Каму няма сарака, усе думаюць, што гэта, бо ён так расфарбаваны. Чысты постмадэрнізм.

І вось, значыць, стаіць Ленін, на якога мы молімся, а вось Ленін, які нікому на хрэн непатрэбны. Любы бандэравец беспакарана можа яго пакрыўдзіць.

### «На мяне напала ўласная радзіма»

Што да спадара Філоненкі, ён сам ніякі не «бандэравец». Аляксандр заўважае са смехам: «Дзіўнасць майго становішча палягае ў тым, што я рускі. І цяпер я жыву ў стане, калі на мяне напала мая ўласная радзіма. Гэта моцна бадзёрыць, трэба сказаць». Ён нарадзіўся і вырас у Кіславодску, лічыць сябе «чалавекам рускай культуры», аднак жыць пад Расіяй не жадае.

— Так атрымалася, што напярэдадні акупацыі Крыму я знаходзіўся ў Кемерава, куды прыехаў з лекцыямі. Тры дні мяне распытвалі пра Украіну. У прыватнасці, якія найбольшыя небяспекі яе падпільноўваюць: бандэраўцы, фашызм, анархія і хаос? Ведаеце, казаў я, у нас адна па-сапраўднаму сур'ёзная праблема — гэта Расія. Яны мне такія: чаму гэта, што за бздуры вы кажаце?! Супакойвалі мяне, супакойвалі. І вось калі нарэшце супакоілі, пачалася вайна...

Крымская кампанія зрабіла цалкам відавочным, наколькі рознымі шляхамі ідуць Украіна і Расія. Да мяне прыйшла поўная яснасць падчас выступу Пуціна ў Крамлі з нагоды анэксіі Крыму. Датуль яшчэ можна было гадаць, такі ён ці не такі, больш празаходні або «суверэнны». А тут імгненна стала зразумелым — рэваншызм, гульня на пачуццях пакалення тых, хто прайграў «халодную вайну» і затаіў крыўду, спроба вярнуць страчаную савецкую «веліч» канчаткова сталі дзяржаўнай палітыкай. Што немінуча выклікала імклівую фашызацыю Расіі. Яны хочуць знішчыць Украіну, каб перамагчы ў барацьбе з Амерыкай, а мяне барацьба з ёй не цікавіць. І я не хачу жыць у фашысцкай дзяржаве.

Гаворачы пра метады, якімі дзейнічае палкоўнік КДБ Пуцін у дачыненні да іншых краін, мой суразмоўца ставіць Беларусь у шэраг крамлёўскіх ахвяраў: «Правакацыя і дэзінфармацыя, чуткі і страхі, запалохванне і задурванне. Так яны працуюць. Зараз ва Украіне, раней у вас. Па-мойму, відавочна, дзе распрацаваны мінскі тэракт».

### Рускі Дантэ ў бандэраўскім Кіеве

А як жа руская культура, хіба яна не пацерпіць ад «бандэраўцаў»? Аляксандр Філоненка ўпэўнены, што не толькі не пацерпіць, але і... будзе квітнець. Бо тут яна можа развівацца ў атмасферы свабоды і ўнутры еўрапейскага кантэксту. Мой суразмоўца прыводзіць канкрэтны прыклад.

— Пасля Лазінскага не існуе ніводнага перакладу Дантэ на рускую мову. А Лазінскі, на мой погляд, не дапамагае яго зразумець. Новы пераклад можа зрабіць расійская паэтка Вольга Седакова. Грошы на яго мы збярэм па ўсёй Еўропе, пераклад будзе народным, зробленым на народныя грошы, а не за грошы аднаго спонсара. Выдадзім у Кіеве. З'яўленне рускага Дантэ ў Кіеве — майданаўскім, «бандэраўскім» Кіеве — у такія цяжкія часіны, мне здаецца, гэта вельмі прыгожы сімвал. Еўрапейскі праект, які ўзбагачае рускую культуру. І ў гэтым сіла Украіны, што ўнутры яе існуе такое асяроддзе, у якім руская культура атрымлівае магчымасць росту і развіцця.

Мой суразмоўца ўпэўнены — менавіта Майдан, дзе ён разам з мінскім паэтам Дзмітрыем Строцавым пабываў і быў ашаломлены, зняў моўныя і культурныя супярэчнасці, вывеўшы Украіну на новы ўзровень, дзе ўсё гэта становіцца неістотнымі дробязямі.

### «Крымскае надвор'е»

Тым часам, пакуль мы гутарым пра рускага Дантэ, каардынатар сепаратысцкага руху ў Харкаве Канстанцін Далгоў на сваёй старонцы ў Facebook, не хаваючыся, заклікае аднадумцаў рыхтавацца да "актыўнай фазы" барацьбы. Інакш, піша ён, «Данбас сыдзе ўслед за Крымам, а мы будзем смактаць болт у адзіных-недзялімых». Канстанцін дадае, што гэта «не проста яго меркаванне, а інфармацыя самі ведаеце адкуль».

«Мы працуем кругласутачна... паверце, што харкаўскі штаб штодня набліжае ўсталяванне ў нашым горадзе цёплага, вясновага, крымскага надвор'я!», — пісаў ён крыху раней.

Ці будзе пры гэтым «крымскім надвор'і» квітнець хоць якая-небудзь культура?

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Антыеўразійскі форум

Па меры таго, як набліжаецца дата падпісання дамовы аб Еўразійскім саюзе, будучыя падпісанты яўна набіваюць сабе цану. Напрыклад, у Алма-Аце прайшоў «Антыеўразійскі форум». «Мы вырашылі выказаць сваю пазіцыю, аргументаваную пазіцыю, пра тое, што на сённяшні дзень для Казахстана гэта няслушнае развіццё падзей. Гэта геапалітычная памылка — дапамагаць Крамлю вырашаць свае задачы», — сказаў адзін з арганізатараў форуму. Падчас сустрэчы ў выступах гучалі самыя радыкальныя антрырасійскія тэмы: «Далучэнне Казахстана да Еўразійскага эканамічнага саюзу ў цяперашні момант не нясе нам ніякіх выгод. Тыя выгоды, пра якія паведамляецца ў СМІ, несур'ёзныя, таму што яны не даюць значнага ўнёску ў валавы ўнутраны прадукт» і г.д. Падчас дыскусій адзін з прысутных нават прапанаваў зусім адмовіцца ад выкарыстання рускай мовы ў Казахстане. Па выніках форуму была вынесена рэзалюцыя пра неабходнасць перанесці на дзесяць гадоў рашэнне пра падпісанне дамовы. З улікам таго, што арганізатары атрымалі залу ў гатэлі, а міліцыя не цікавілася сходам, ніхто не мае сумневу, што мерапрыемства санкцыянавалі наверсе. З улікам таго, што супярэчнасці ўнутры Еўразійскага саюза будуць толькі расці, хутчэй за ўсё, гэта не апошняя акцыя казахскіх антыеўраазістаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Патрабуем рэспубліку!




Эканамічны крызіс у Іспаніі моцна адбіўся на папулярнасці канстытуцыйнай манархіі — дзяржаўнага ладу краіны. Магчыма, таму 15 красавіка незвычайна шмат іспанцаў — некалькі дзясяткаў тысяч чалавек — выйшлі на вуліцу Мадрыда, каб узгадаць адну гістарычную дату. Менавіта ў гэты дзень 83 гады таму пабачыла свет Другая Іспанская Рэспубліка, якая, праўда, праіснавала ўсяго 5 гадоў, будучы знішчанай генералам Франка. Пасля таго, як дыктатура Франка скончылася, у 1975 годзе іспанцы аддалі перавагу канстытуцыйнай манархіі, каб мірна перайсці да дэмакратыі. Аднак цяпер той кампраміс лічыцца памылкай. Усе больш жыхароў краіны лічаць, што манархія — гэта анахранізм. Антыманархісцкія забабоны настолькі масавыя, што некаторыя левыя кандыдаты на выбары ў еўрапарламент нават абяцаюць у выпадку перамогі зрабіць цяперашняга караля Хуана Карласа звычайным грамадзянінам. Застаецца сказаць, што маніфестацыя 15 красавіка ў Мадрыдзе справа не абмежавалася. Левыя партыі з парламенце прапануюць прыраўняць франкізм да фашызму, а баскскія нацыяналісты лабіруюць законапраект аб крымінальнай адказнасці за выкарыстанне сімволікі франкістаў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. У чаканні перайменавання




Як вядома, апошнім часам грамадскасць шэрагу краін СНД знайшла сабе новую гульню — прыдумвае новыя назвы для сваіх краін. Напрыклад, у Казахстане прапануюць называць Казах Елі, а Арменію могуць назваць Усходняя Арменія. Не адстаюць ад модных трэндаў і кыргызы. Напрыклад, грамадскі рух «Жаштар Өкмөтү» лічыць, што краіна павінна называцца проста Кыргыз. Маўляў, выключна новая назва краіны можа дапамагчы кіргізам парваць з эпохай палітычнай карупцыі, якая пануе ў краіне апошнія гады. Новай назвай прапановы «Жаштар Өкмөтү» не абмяжоўваюцца. Высоўваецца ідэя адначасова са зменай назвы дзяржавы радыкальна змяніць канстытуцыю, а дакладней, ліквідаваць парламенцкую рэспубліку. Парламент, на думку рэфарматараў, можа замяніць такі орган, як Народны Курултай. Пры гэтым аўтары рэформы спасылаюцца на вопыт бурятаў. Аказваецца, у Бураціі па канстытуцыі аўтаноміі дзейнічае Народны Курултай, які мае функцыі заканадаўчага органу. Праўда, кіргізскія рэфарматары забываюць сказаць, што Курултай дзейнічае паралельна парламенту, і хутчэй з'яўляецца сімвалічнай данінай мясцовай палітычнай традыцыі.

**Паводле кіргізскай прэсы**

# Вялікі Сацыялістычны Майдан

*Алег НОВІКАЎ*

**Сацыяльная тэматыка падаецца адной з тэмаў, якія могуць аб'яднаць украінскія Захад і Усход. Аднак сацыяльныя сілы ва Украіне вельмі слабыя, — канстатавалі ўдзельнікі канферэнцыі «Левыя і Майдан», якая прайшла ў Кіеве 12–13 красавіка.**

Адпраўной кропкай дыскусіі на канферэнцыі стаў мазгавы штурм наконт таго, як разумець адзін з эпізодаў, што меў месца на Майдане прыкладна ў пачатку года. На барыкады спрабаваў прабрацца адзін з кіеўскіх хіпі, які знешне выглядаў як лубочны Ісус Хрыстос — барада, патлы, ды яшчэ, нягледзячы на мароз, у сандалях. У руках юнак трымаў чырвоны сцяг, які, па яго словах сімвалізаваў не камунізм, а барацьбу за справядлівасць. Спроба юнака трапіць у эпіцэнтр рэвалюцыі правалілася. За перыметр барыкад яго выгнаў сябра Самаабароны.

Сцэна выгнання «Ісуса» з чырвоным сцягам з'яўлялася, на думку некаторых, глыбока сімвалічнай. Яна цудоўна перадавала прыроду апошняй рэвалюцыі, галоўным тэзісам якой быў поўны разрыў з постсавецкай, посткамуністычнай спадчынай. Менавіта на базе гэтай спадчыны будаваўся кансэнсус незалежнай Украіны 23 гады. Аднак на нейкім этапе часткі сіл (алігархі, нацыяналісты і праеўрапейская грамадскасць) праект постсавецкай Украіны пачаў падавацца анахранізмам.

Гэтыя сілы і сфармавалі ўдарную сілу Майдану і сталі галоўнымі бенефіцыярамі яго перамогі: нацыяналісты ўвайшлі ва ўладу, алігархі атрымалі картбланш на знішчэнне рэштках сацыяльнай мадэлі СССР, праеўрапейскі сярэдні клас дабіўся ўключэння Украіны ў сферу інтарэсаў ЕС.

Але была зроблена стратэгічная памылка. Аўтарам праекту савецкай Украіны быў Ленін, які патрабаваў уключэння ў яе склад Данбасу і Поўдня. Таму крах постсавецкай Украіны падарваў легітымнасць яе кардонаў і выклікаў разбурэнне ідэнтычнасці на Усходзе.

Так ці інакш, па словах прыхільнікаў гэтай тэорыі, Майдан выглядае дастаткова рэакцыйнай з'явай, якая не мае нічога агульнага з сацыяльным прагрэсам.

Апаненты, спрабуючы давесці сваю пазіцыю, таксама звярталіся да апісанай сцэны з «Ісусам». Хлопец, які пагнаў хіпі з Майдану, відавочна не належыць да праслойкі алігархаў, гэта прадстаўнік катэгорыі «заробітчан», якая сфармавалася ва ўкраінскай правінцыі на фоне калапсу савецкай інфраструктуры. Прыкладна год сем таму сацыёлагі пачалі адзначаць нарастаючую агрэсіўнасць прадстаўнікоў гэтай сацыяльнай групы. Яны на сваім вопыце пераканаліся, што ў жыцці ні ім, ні іх дзецям нічога не свеціць, і гатовыя былі на самыя радыкальныя акцыі. «Сацыяльная Вандэя» — так апісалі гэты феномен сацыёлагі.

Фактычна, просты люд чакаў нагоды для бунту супраць сістэмы, які дзіўным чынам аказаўся пачаты студэнтамі Еўрамайдану. Сяляне прыйшлі на Майдан і сталі яго дамінуючай жорсткай і бескампраміснай сілай. Як правакацыйна адзначыў адзін з выступоўцаў на канферэнцыі, калі б Януковіч падпісаў Асацыяцыю з Еўропай, людзі паўсталі супраць Асацыяцыі. Фактычна еўралозунгі Майдану сублімíравалі сацыяльны пратэст, які мелі падтрымаць левыя.

Так і рабіла адна з фракцый украінскіх левых. Праўда, у выніку гэта ўсё вылілася ў тактыку малых спраў — арганізацыю адукацыйных курсаў, бібліятэкі ў захопленым Украінскім доме, санітарных брыгад, медыя-ініцыятыў і г.д. Тое, што маштаб быў невялікі, тлумачыцца двума фактарамі. Па-першае, усялякі сацыялістычны лозунг выклікаў устойліва негатыўную рэакцыю ў правых радыкалаў. Па-другое, палітычная свядомасць «заробітчан» аказалася вельмі нізкай і мазаічнай. У побыце яны ахвотна крытыкавалі алігархаў, аднак у выніку Майдан не змог сфармуляваць ніводнага сацыяльнага лозунгу. Больш таго, антыкрызісная праграма ўраду, якая ўключае замарожванне пенсій і заробкаў, больш за ўсё б'е па тых жа па «сацыяльных вандэйцах».

Асобную фракцыю ў дэбатах — павінны былі ці не левыя падтрымліваць Майдан — складалі працоўныя. Па словах лідараў




прафсаюзаў, у большасці Майдан разглядаўся як шоў сярэдняга класа і моладзі. Па разліках сацыёлагаў, пралетарыы складалі 6–7 працэнтаў пратэстнай масы рэвалюцыі.

Аднак цяпер сітуацыя мяняецца на вачах. Ідзе актыўны працэс палітызацыі рабочага класу. На першы погляд, гэтая палітызацыя ўяўляе выклік для новай улады. Большасць індустрыяльных гігантаў Украіны завязаныя на расійскі рынак. Як следства, інтэграцыя Украіны ў склад Еўропы пагражае працы гэтых прадпрыемстваў. Па-другое, яны знаходзяцца на рускамоўным Усходзе — арэале дзейнасці сепаратыстаў. Аднак, аказваецца, прарасійскія настроі рабочым не характэрныя. Тых жа шахцёраў Данбасу пужае сумная статыстыка Растоўскай вобласці, дзе цяпер працуюць толькі 4 вугальныя шахты. Да таго ж усе баяцца агрэсіўнасці Расіі.

Магчыма, таму вялікім інтарэсам на канферэнцыі карыстаўся Ілля Панамароў — адзіны дэпутат расійскай Дзярждумы, які прагаласаваў супраць анексіі Крыму. Паводле яго словаў, палітычная фізіяномія рэжыму ў Расіі пасля Крыму змянілася. Цяпер гэта адкрыты банапартызм, якому для існавання трэба агрэсіўная знешняя палітыка. Цікавая рэмарка Панамарова пра настроі ў калідорах Крамля. Па яго словах, нават большасць супрацоўнікаў апарату адміністрацыі прэзідэнта РФ не ў захапленні ад крымскай авантуры.

З іншага боку, Панамароў прызнаў, што ў тым ліку пасіўнае стаўленне ўкраінскіх левых да прысутнасці нацыяналістычных лозунгаў на Майдане дазволіла Крамлю маніпуляваць калектыўнымі настроямі ў Расіі. Адсюль і завоблачны рэйтынг Пуціна, і вельмі супярэчлівае стаўленне да таго ж Панамарова, якіператварыўся шмат для каго ў здрадніка.

Нягледзячы на тое, што на канферэнцыі больш казалі пра правалы левых, увогуле тонус удзельнікаў быў пазітыўным. Відавочна, што сацыяльная праблематыка не толькі становіцца вельмі актуальнай, але і здольная аб'яднаць усход і захад Украіны. Акрамя таго, стан іншых палітычных сіл ва Украіне — не лепшы.

Каб казаць, ці здольныя ўкраінскія левыя набыць суб'ектнасць і стаць палітычным актарам, трэба дачакацца 1 мая, калі ў краіне адбудуцца традыцыйныя прафсаюзныя маніфестацыі. Магчыма, тыя «Ісус» і «заробітчанін» усё ж апынуцца побач на адной і той жа барыкадзе.

# Ад данбаскага інформбюро

Алег НОВІКАЎ

**З 13 красавіка ў Данбасе пачалася Антытэрарыстычная аперацыя (АТА). Эксперты ўжо аналізуюць яе перспектывы і ўплыў на глабальны палітычны працэс. Прапануем агляд аналітыкі.**

Як і трэба было чакаць, пачатак аперацыі справакаваў новую стадыю бязлітаснай прапагандысцкай вайны: СМІ з абодвух бакоў канфлікту прапануюць абсалютна полюсныя версіі падзей. Пакуль канкрэтная сітуацыя на данбаскім фронце не зразумелая, агульныя тэндэнцыі больш-менш праглядаюцца. Так ці інакш, канфлікт можа закончыцца або перамогай Кіева, або перамогай сепаратыстаў. Ёсць і трэці варыянт — пачынаецца другая Югаславія, калі канфлікт зацягнецца, пакуль вялікія краіны, якія падтрымліваюць яго бакі, не дасягнуць паразумення.

Разгледзім гэтыя варыянты. Варыянт першы: перамога Кіева. Трэба прызнаць, што нават у Кіеве, дзе ўра-патрыятычны ўгар зашвальвае, няшмат экспертаў прагназуюць такі ход падзей. Галоўная прычына — АТА вядзецца на фоне выбарчай кампаніі ў тыле, і, адпаведна, вайскоўцы падпарадкаваныя палітычнай кан'юнктуры. У прынцыпе пра гэта сведчыць ужо тое, што АТА пачалася пасля таго, як Турчынаў атрымаў ад Майдану чорную метку. 13 красавіка Веча на Майдане абвінавацiла в.а. прэзідэнта ў здачы Данбаса. Яму далі 24 гадзіны, каб ён сышоў у адстаўку. Турчынаў быў вымушаны аператыўна рэагаваць, даўшы загад пачаць тую самую АТА. Між тым, шмат экспертаў лічаць, што сілавікі Украіны пакуль не падрыхтаваныя для такой місіі.

Сярод іх — кіраўнік інфармацыйнага супраціву Зміцер Цімчук. «Цяпер, у экстраным рэжыме гэту праблему (Данбас) вырашыць немагчыма. Сітуацыю можна выправіць толькі шляхам перакідвання ў рэгіён лаяльных уладзе і патрыятычна настроеных сілавікоў, што і робіцца. Але варта разумець, што праваахоўнікі-здраднікі — гэта магутны і небяспечны рэсурс для экстрэмістаў. І, што горш за ўсё, здаючы аддзяленне міліцыі, яны дэ-факта ўзбройваюць ужо нават не экстрэмістаў, але і проста «аблудных авечак» у выглядзе па-антыўкраінску настроеных грамадзян з мясцовага насельніцтва. Гэта — сцэнар, які патрэбен Расіі, — піша Цімчук, і дадае: — Па-другое, перакідванне на ўсход часткі Узброеных сіл больш падыходзяць для абароны тэрыторыі ў памежных раёнах, але не для правядзення АТА».

Яшчэ адзін аргумент — адсутнасць шмат у кага ў Кіеве волі ваяваць за Данбас. Некаторыя эксперты адзначаюць, што сярод кіеўскай эліты склалася думка, што Данбас так ці інакш праіграны. Гэта адзначае і Павал Шарамет: «Даводзілася чуць і такую версію — што на ўсходзе ваяваць можа і не будуць, але вось Кіеў не аддадуць. Няма яшчэ ўкраінскай нацыі, ці яна не «осмыслена» ў існых межах, занадта вялікая гэта прастора — прастора сучаснай дзяржавы Украіна».

Другі варыянт — калі сепаратызм лёгка атрымае перамогу — таксама не мае ў экспертных цэнтрах вялікай папулярнасці. Напрыклад, расійскае выданне «Взгляд» лічыць, што сепаратысты Данбасу не змогуць супрацьстаяць сучасным метадам вайны. «Паводле ацэнак ваенных экспертаў, тактыка аблогі гарадоў Данбаса будзе наступнай: армейскія часткі будуць іх блакаваць, ствараючы кольца вакол паўсталага горада, а спецпадраздзяленні СБУ і Нацыянальная гвардыя — непасрэдна праводзіць зачыстку. Іх паспрабуюць выматаць сталымі ўкідамі дэзінфармацыі пра раптоўныя штурмы і напады. Шэраг ваенных экспертаў лічаць, што выстаяць перад такім масіраваным уздзеяннем немагчыма. І што нейкая частка абаронцаў проста адмовіцца ад актыўных дзеянняў і сыдзе з баявых пазіцый».

**Усё залежыць ад украінцаў: калі яны змогуць кансалідавацца і стварыць досыць шматлікія эфектыўныя атрады самаабароны, тады ў Расіі ніякіх шанцаў не будзе**

Большасць спецыялістаў дапускаюць, што хуткай перамогі не атрымае ніводны з бакоў супрацьстаяння. Пытанне ў тым, хто атрымае больш бонусаў ад такога хаосу.

«Рызыкі складаюцца ў тым, што ўсё гэта ператвараецца ў нешта доўгае, зацяжное і заблытанае. Калі Кіеў будзе не ў стане адказаць вельмі хутка, у Масквы з'явіцца грандыёзны козыр, які можна будзе выкарыстоўваць у сваіх мэтах пры перамовах: або Захад прызнае расколатую на часткі Украіну, або пагодзіцца з ідэяй кампрамісу, які ўключае ў сябе прынцыпе новай канстытуцыі і федэралізацыю Украіны», — піша Роджар Макдэрмат, супрацоўнік Фонду Джэймстаўна (ЗША) на ВВС. Аднак той жа эксперт лічыць, што трыумф Масквы будзе мець часовы характар. «Захад ужо спазнаў «стратэгічны шок». Гэты крызіс выявіў слабыя месцы ў ацэнцы расійскай выведкі і патэнцыйнай пагрозы, якую яна можа ўяўляць ва Усходняй Еўропе».

А вось Павел Фельгенгаўэр, ваенны аглядальнік «Новай газеты» (Расія) лічыць, што доўгатэрміновая канфрантацыя выключна на руку Кіеву. «Ад таго, што хтосьці сядзіць у будынках мясцовых адміністрацый, дрэнна толькі мірным жыхарам. Калі там нейкія незразумелыя людзі, а ў некаторых выпадках гэта проста крымінальнікі, займаюць адміністрацыйныя будынкі — гэта, вядома, калапс. Жыхарам ад гэтага дрэнна, а астатнім — ні так, ні сяк. Самае важнае для ўкраінскіх улад цяпер — перафарматаваць свае сілавыя структуры. Нават добра, што на бок захопнікаў пераходзіць міліцыя. МУС на Украіне ненавідзяць усе. Тое, што жахлівая карумпаваная структура пераходзіць пад расійскі сцяг, ніякіх дывідэндаў Расіі не прынясе. Наогул, усё залежыць ад украінцаў: калі яны змогуць кансалідавацца і стварыць досыць шматлікія эфектыўныя атрады самаабароны, што пачынае цяпер адбывацца ў розных частках Украіны, тады ў Расіі ніякіх шанцаў не будзе. Супраць некалькіх мільёнаў апалчэнцаў расійскія ўзброеныя сілы бескарысныя», — лічыць эксперт.

Аднак нават пераможны для Кіева сцэнар у вайне можа быць толькі пралогам для новых выклікаў. Дасюль у Ліпках (урадавы квартал Кіева) прыроду хваляванняў звязваюць выключна з рукой Масквы і лічаць, што вырашыць данбаскае пытанне можна за кошт ліквідацыі сепаратысцкага падполля. Такі ход думак чымсьці нагадвае ідэю манархіста Шульгіна, які падчас лютаўскай рэвалюцыі 1917-га сцвярджаў, што выратаваць Расійскую імперыю могуць усяго 50 кулямётаў.

Больш аналітыкаў лічаць, што рэгіён за апошні час вельмі змяніўся, і аднавіць статус-кво ужо не атрымаецца.

Самае цікавае, што нармалізаваць Данбас будзе цяжка і Расіі, калі яна ўвядзе сюды свае часткі. Пра гэта ў сваім блогу піша эксперт Эрык Найман. Па яго словах, «у любым выпадку, спачатку самаабвешчаная Данецкая Рэспубліка правядзе «рэферэндум» з пытаннямі пра ўступленне ў склад РФ ці пра федэралізацыю Украіны. Калі жыхары Данбаса прагаласуюць за федэралізацыю, то рэгіён стане непрызнанай дзяржавай. Эксперт лічыць, што міжнародная ізаляцыя і разбурэнне эканамічных сувязяў ператвораць Данбас з проста беднага рэгіёна ў жабрацкі: «Пры анексіі Данбаса заходнія санкцыі могуць стаць сапраўды сур'ёзнымі і небяспечнымі. Яны будуць пагражаць існаванню самога рэжыму Пуціна».

Хаця галоўную пагрозу Пуціну могуць складаць не крытыка Захаду, а данецкі вірус. Як піша расійскі палітолаг Барыс Кагарліцкі, прыклад паспяховага рабочага паўстання ў Данецку, якое асвятляюць і праслаўляюць усе расійскія СМІ, можа выклікаць жаданне ў расіян паўтарыць тое ж самае. Асабліва, калі эканамічная сітуацыя ў Расіі пагоршыцца з-за санкцый.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Вадзім Мішын



Лідар малдаўскай партыі «Renastere-Возрождение», якая паводле праграмы абараняе інтарэсы рускамоўных малдаван, выступіў супраць замены старых савецкіх пашпартоў на малдаўскія. Мішын і яго аднапартыйцы лічаць, што «Савецкія пашпарты для грамадзян Малдовы — не проста дакумент, гэта памяць сэрца, настальгія па тых часах, калі яны былі грамадзянамі велізарнай магутнай дзяржавы пад назвай СССР. Для іх савецкі пашпарт — знак прыналежнасці да вялікага мінулага, якое яны шануюць і якім ганарацца». Таксама «Renastere-Возрождение» ўмудрылася падаць гэту заяву ў якасці праявы клопату пра правы старых людзей. «Не варта забываць, што савецкія пашпарты засталіся ў малой колькасці вельмі пажылых людзей, якія даўно нікуды не выязджаюць, не ходзяць. Дзяржава, калі яна гуманная, павінна была б пакінуць пажылым людзям такую магчымасць — выкарыстоўваць савецкі пашпарт да канца сваіх дзён. Гэта было б правільным рашэннем», — лічыць Мішын. У выніку, праўда, парламент вырашыў савецкія пашпарты ўсё ж забараніць, што Мішын назваў «адным з самых антыгуманных актаў у гісторыі Малдовы».

### Рауль Кастра



Прэзідэнт Кубы павіншаваў суайчыннікаў з вялікай перамогай мясцовых спецслужбаў. Яны высветлілі, што кубінская версія Twitter на самай справе была прадуктам амерыканскай разведкі. Кубінскі Twitter з'явіўся ў 2009 годзе. Кубінцы ахвотна карысталіся ім. Ім спадабалася сістэма перадачы кароткіх тэкставых паведамленняў на аснове мабільнай сувязі, з дапамогай якой можна было абыйсці дзейсныя на Кубе абмежаванні на доступ да інтэрнэту. Нядзіўна, што кубінскія спецслужбы адразу зацікавіліся гэтым, і вось цяпер высветлілі, адкуль тырчаць вушы. Па словах афіцыйнай Гаваны, канчатковай мэтай развіцця на Кубе праекта па абмене электроннымі паведамленнямі было вядзенне антыўрадавай прапаганды, а стварэнне кубінскага Twitter фінансавалі з Вашынгтону. Белы дом ужо зрабіў заяву з гэтай нагоды. Кангрэс ЗША сапраўды ўхваліў фінансаванне падобнага праекта для Кубы, аднак выключна «для пашырэння магчымасцяў кубінцаў па атрыманні доступу да большага аб'ёму інфармацыі і ўмацавання грамадзянскай супольнасці». Тое, што кубінскі Twitter фінансаваўся сакрэтна, Белы Дом тлумачыць праблемамі канспірацыі. ЗША імкнуліся схаваць інфармацыю, каб засцерагчы ўдзельнікаў праграмы ад магчымых рэпрэсій з боку кубінскіх улад.

### Сяргей Шойгу



Міністра абароны РФ абвінавацілі ў тым, што ён (этнічны тувінец) рыхтуе падставы для выхаду Тувы (аўтаномная рэспубліка на Алтаі) са складу Расіі. Усё пачалася з таго, што Шойгу прапанаваў злучыць Тыву з Кітаем і Індыяй чыгункай, якую цяпер плануецца пракласці з Краснаярскага краю ў сталіцу Тувы — Кызыл. «Ад Кызыла можна б ісці далей праз захад Манголіі на Урумчы, адтуль на Кітай, а адтуль ужо ў любы бок — у Пакістан, у Індыю», — сказаў Шойгу. Кіраўнік расійскага ўрада Дзмітрый Мядзведзеў ужо даручыў прапрацаваць прапанову Шойгу ў рамках неабходнасці «пераарыентацыі існуючых грузапатокаў з Расіі». Між тым, на сайтах расійскіх нацыяналістаў ініцыятыва міністра была ўспрынятая як сепаратызм. На думку ўра-патрыётаў, па сутнасці Шойгу будуе інфраструктуру для стварэння незалежнасці краю. Цяпер Тува цалкам ізаляваная ад замежжа. Чыгунка, якая звяжа яе з Пекінам, зробіць Туву з яе гіганцкімі карыснымі выкапнямі вельмі прываблівай для кітайскіх і амерыканскіх бізнэсоўцаў і палітыкаў, якія ўжо вядуць барацьбу за рэгіён, дзе ў расіян вялікая праблема з дэмаграфіяй. Тым больш, што ў Тувы ёсць гістарычныя падставы для сепаратызму. Да 1944 года край быў незалежнай дзяржавай, пакуль яго штучна не ўключылі ў склад РСФСР на правах аўтаноміі.



# Споведзь савецкага партызана

**Супрацоўнік НКУС Кузьма Жарэбін, ураджэнец Курскай вобласці Расіі, удзельнічаў у «вызваленні Заходняй Беларусі», ваяваў у Фінляндыі, прайшоў Вялікую Айчынную. Яго ўспаміны раней нідзе не друкаваліся, але вартыя таго, каб пазнаёміць з імі чытачоў «Новага часу».**

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

## Вайна ў Польшчы

Кузьма Жарэбін нарадзіўся ў сакавіку 1916 года ў сялянскай сям'і. Ужо пры савецкай уладзе ён атрымаў сярэднюю адукацыю і ў 1937 годзе быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. А праз два гады, у верасні 1939 года, СССР пайшоў «вызваляць братоў беларусаў і ўкраінцаў». У савецкай ды айчыннай гістарыяграфіях прынята лічыць, што той паход быў бяскроўны і міратворчы. Але не ўсё так проста. У кастрычніку 1939 года Кузьма Андрэевіч напісаў ліст дадому, у якім, паміж іншага, былі і такія словы: «Даражэнькія, я жывы. [...] Мы зараз у былой Польшчы. Вайна скончылася». Вось так чырвонаармеец акрэсліваў тыя падзеі, называючы ўсё сваімі імёнамі. Ужо праз некалькі месяцаў Жарэбін апынуўся ў іншай «гарачай кропцы»: Савецкі Саюз напаў на Фінляндыю. Чырвонаармеец ваяваў у асобным батальёне паветранага назірання, апавяшчэння і сувязі.

Пасля завяршэння баявых дзеянняў на Карэльскім перашэйку Кузьма вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, у горад Глыбокае. У службовай характарыстыцы на ўдзельніка дзвюх, на той момант, войнаў адзначалася: «У верасні 1940 года Райкам камсамола накіраваў Кузьму Андрэевіча Жарэбіна па камсамольскай пуцёўцы на працу ў органы дзяржбяспекі». Праз месяц Кузьма паступіў на вучобу на гадавыя курсы сярэдніх камандзіраў НКУС у Гродна.

## Чацвёртая хваля сталінскіх дэпартацый

Чэкісцкая адукацыя скончылася 18 чэрвеня 1941 года. Вось як апісваў падзеі таго дня сам нкусавец: «У 20 гадзін нас пастроілі ў двары школы. Перад шыхтом выйшлі начальнік школы палкоўнік Восіпаў, камісар палкоўнік Баташоў і абвясцілі, што зараз мы — сярэднія камандзіры НКУС. Пасля гэтага нас абмундзіравалі і строем павялі на вакзал. Нашая рота па прызначэнні трапіла ў горад Аўгустаў, Беластоцкай вобласці БССР. Узначальваў наш аддзел завуч школы, старэйшы лейтэнант Наркамату ўнутраных спраў Кулікоўскі і камандзір роты, старшы лейтэнант Каротчанка. Мы прыбылі на месца прызначэння ў 3 гадзіны 30 хвілін ночы. Перад намі паставілі задачу эвакуіраваць усё насельніцтва памежнай паласы. Працавалі мы да 22 чэрвеня 1941 года. З задачай мы справіліся. 4 эшалоны эвакуіравалі ў тыл Расіі». Чэкіст адвочна не жадаў удавацца ў дэталі, што ж за «эвакуацыя» праводзілася за тры дні да нападу Трэцяга Рэйху на Савецкі Саюз.



*Фота з архіва аўтара*

Партызаны атрада, якім камандаваў Кузьма Жарэбін, верасень 1944 года

Зараз мы дакладна ведаем, што ў гэты перыяд НКУС арганізаваў чацвёртую хвалю дэпартацый насельніцтва Заходняй Беларусі. У адпаведнасці са спецыяльнымі дырэктывамі Наркамата ўнутраных спраў СССР, з лютага 1940 года і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі заходніх абласцей БССР адбыліся некалькі хваль вывазу мясцовага насельніцтва, былых грамадзян ІІ Рэчы Паспалітай. Апошняя распачалася ў канцы мая на тэрыторыі Заходняй Украіны і скончылася 19–22 чэрвеня 1941 года на Віленшчыне, Гродзеншчыне і Беласточчыне. У выніку гэтай дэпартацыі шмат тысяч ні ў чым не вінаватых людзей былі вывезеныя ў Казахстанскую ССР, а таксама ў Алтайскі і Краснаярскі край РСФСР. Значная колькасць з гэтых няшчасных памерла ў дарозе ці загінула пад бомбамі нямецкай авіяцыі, якая пасля нападу Гітлера на СССР панавала ў беларускім небе.

## У партызанах

У 4-20 раніцы 22 чэрвеня 1941 года нямецкія штурмавыя групы атакавалі савецкую памежную заставу, на якой знаходзіліся і нкусаўцы з Гродна. Бой працягваўся да 12 гадзін дня, а пазней, тыя, хто застаўся ў жывых, пачалі арганізавана адыходзіць на ўсход. Гэта, дарэчы, абвяргае міф пра тое, што ў першыя дні вайны амаль усе савецкія памежнікі на савецка-нямецкай мяжы загінулі на заставах.

4–5 ліпеня 1941 года Кузьма Жарэбін знаходзіўся ўжо ў вёсцы Саковічы ў 30 кіламетрах ад Мінска. Беларускія сяляне, якія памяталі савецкія рэпрэсіі, не доўга чакаючы, выдалі нкусаўцаў немцам. Жаўнеры вермахта адвезлі гора-чэкістаў у Мінск і змясцілі ў лагер для савецкіх ваеннапалонных, з якога Жарэбіну ўдалося збегчы ў сакавіку 1942 года. У лесе ён знайшоў каля 15 чалавек, якія дакладна не ведалі, што рабіць. Паўсюдна былі нямецкія і паліцэйскія гарнізоны, а мясцовыя жыхары не любілі галодных, абарваных і ўзброеных людзей з лесу.

У адным з дакладаў Цэнтральнага штабу партызанскага руху зімой 1942/43 года аб паводзінах савецкіх партызан у Беларусі гаварылася: «Паколькі яны не ваююць, яны ператвараюцца ў дадатковы цяжар для сялян і настройваюць сялянства супраць усіх партызан у цэлым. Калі няма немцаў, то партызаны беспрашкодна ўваходзяць у вёску, забіраюць кароў, авечак, хлеб і іншыя прадукты. Але як толькі з'яўляецца карны атрад, партызаны бягуць, не аказваючы супраціву».

А вось як сітуацыю 1942 года апісваў адзін з савецкіх партызанаў: «Партызаны, галоўным чынам, палонныя і акружэнцы, узброены за кошт лясоў і мясцовага насельніцтва. Аперуючы, у сваёй большасці, маленькімі групамі ў 20–40 чалавек, нядрэнна, асабліва вясной, білі немцаў. Але гэта была голая стыхія, гэта была помста палоннага за ўсё тое, што ён бачыў і адчуў у немцаў. Цяпер жа яны амаль усе бяздзейнічаюць. Няма боепрыпасаў, яны на 100 % адарваныя ад савецкай рэчаіснасці. Атрад (група) атрымлівае ад камандавання адпаведную вёску-дзве, выязджае ноччу, і забірае ў кожнай хаце ўсё, што знойдзе: сала, масла, смятану, хлеб і іншыя прадукты. Адсюль сяляне ўсё пагалоўна хаваюць. Нярэдкія выпадкі, калі разам з прадуктамі партызаны абшукваюць шафы, скрыні і бяруць вопратку і боты і нават прадметы раскошы: адэкалоны, гадзіннікі і іншыя рэчы. Забіраюць коней для адвозу прадуктаў, абяцаючы іх вярнуць, але фактычна рэдка іх вяртаюць. Усё гэта робіцца без уліку сацыяльнага і эканамічнага становішча сялян».

Хутка нкусавец Жарэбін накіраваў чалавека ў Мінск для ўсталявання сувязі з падполлем. Замест гэтага пасыльны прывёў са сталіцы некалькі ваеннапалонных, якім удалося збегчы з лагеру. У жніўні 1942 года дзейнасць савецкіх партызан пад камандаваннем ураджэнца Курскай губерні прымусіла мясцовых жыхароў звярнуцца да нямецкіх акупацыйных улад з просьбай аб выратаванні. Хутка немцы атачылі партызанскі атрад. У выніку бою, які, па прызнанні Жарэбіна, працягваўся каля пяці гадзін, загінула шмат партызан, аднак канчаткова знішчыць атрад не ўдалося.

## У Заходняй Беларусі

Рэшткі атрада адышлі ў бок Баранавіцкай вобласці і злучыліся з атрадам імя Будзённага Сталінскай партызанскай брыгады. Партызаны Жарэбіна ў гэты час удзельнічалі ў баявых дзеяннях з падраздзяленнямі польскай Арміі Краёвай. Дарэчы, з мая 1943 да ліпеня 1944 года на тэрыторыі адной толькі Баранавіцкай вобласці паміж атрадамі АК і савецкімі партызанамі адбылося не менш за 230 боесутыкненняў.



БЕЛОРУССКИЙ
ШТАБ
ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ
27 августа 1944 г.

СПРАВКА

Дана настоящая
в том, что он действительно состоял в партизанском отряде бригады
с „ “ 194 г. по „7“ июля 1944 г.
в должности
Отряда им. Пархоменко
бриг. им. Сталина

Начальник Отдела Кадров
Белорусского Штаба Партизанского
Движения

Тип. им. Сталина Зак. 52

**Даведка Жарэбіна ад Беларускага штабу партызанскага руху, 1944 год**

Акрамя камандавання атрадам імя Пархоменкі (партызанскай брыгады імя Іосіфа Сталіна), лейтэнант НКУС выконвае абавязкі і ўпаўнаважанага асобага аддзелу. У ліпені 1944 года партызанам пад яго камандаваннем прыйшлося ўдзельнічаць у баях супраць адступаючых з Беларусі нямецкіх войскаў. У адным з іх было знішчана 60 жаўнераў вермахта і каля 300 узята ў палон.

Варта, аднак, улічваць, што тыя нямецкія акружэнцы, якія ратаваліся з катлоў пад Бабруйскам і Мінскам, ужо не прадстаўлялі грознай сілы. Пасля вайны Кузьма Жарэбін працаваў на тэлеграфе ў Барысаве і займаў пасаду прапагандыста ў мясцовых органах камуністычнай партыі. Памёр гэты чалавек у 1993 годзе.

Аналізуючы гісторыю дзейнасці савецкіх партызанскіх атрадаў на тэрыторыі Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны, трэба вельмі ўважліва аналізаваць першакрыніцы і звяртаць увагу, перш за ўсё на ўспаміны відавочцаў тых падзей. Толькі гэта дапаможа зрабіць аб'ектыўны малюнак той жудаснай рэчаіснасці, праз якую прыйшлося прайсці беларусам у 1939–1945 гадах.

# Трэба маліцца сваім зоркам

Лявон ЮРЭВІЧ

**У зборніку памяці гісторыка, архівіста Віталя Скалабана «Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей» была змешчана мая публікацыя, прысвечаная версіі смерці Янкі Купалы, адбітай у эміграцыйным ліставанні, у прыватнасці — у лісце прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка да Антона Адамовіча і Вітаўта Тумаша.**

Там жа фармулявалася цікавае пытанне: якім чынам, якімі сцежкамі дабіраліся — спачатку ў Нямеччыну, пазней у ЗША — «госьці» і звесткі з савецкай Беларусі, абмінаючы прафесійную ўвагу неабыякавых людзей на Бацькаўшчыне.

Дакладнага адказу на гэтае пытанне тым часам не знойдзена, але пэўныя здагадкі з'яўляюцца. Так, на адбітку аднаго выпадкова выяўленага ў архіве Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку ліста асадкаю зробленая заўвага: «Ліст да Ант. Адамовіча Васіля Гінтаўта, прысланы праз Польшчу. Ліст прысланы ў выніку сувязі, якую К. Мярляк дапамог наладзіць праз ЦРУ».


Кастусь Мярляк

Кастусь Мярляк быў беларускім грамадскім дзеячам, які на пачатку 1950-х гадоў жыў у Аргентыне, а пазней перабраўся ў ЗША, дзе быў вельмі актыўны ў беларускім жыцці.

З пытаннем, што за сувязь ён меў з ЦРУ, што наогул вядома пра яе, я звярнуўся да Янкі Запрудніка. На жаль, высветлілася няшмат. Янка Запруднік адпісаў: «Пра Мерлякову сувязь з ЦРУ ў мяне, фактычна, не веда, а толькі дагадка. Аднойчы — гэта было недзе ў канцы 1950-х — ён пытаецца ў мяне, ці не хацеў бы я пасласць пачку сваім у Беларусь. Я папытаўся ў яго, пра якую гэта пачку ён гаворыць. А ён кажа, што ведае такую кампанію, якая высылае ў Беларусь дармовыя пачкі з харчамі. Каштаваць гэткая пачка нічога не будзе, сказаў ён, трэба толькі даць адрас. Я падзякаваў яму за прапанову, але ад ягонай услугі адмовіўся, падумаўшы, што за гэтай прапановай хаваюцца нейкія дадатковыя мэты. Больш у нас на гэтую тэму гутарак не было. Вось гэта — уся мая «веда». А дагадкі тут пра Мерлякову сувязь могуць быць самыя розныя» (Электронны ліст ад Янкі Запрудніка 25.03.2014).


Янка Запруднік

Так ці інакш, пэўныя кірункі пошуку сувязей, некаторыя ідэі ўжо маюцца. Цяпер жа — да самога згаданага эпісталярыя.

Да ліста, высланага з Гародні (вул. Горкага, д. 56, кв. 2, Васількоў Б. Ів.) далучаная кароткая пісулька па-польску: «Шчэцын, 3.V.59. Шаноўны спадар! Выконваючы просьбу майго знаёмага, дасылаю Вам ліст. Адразу потым высылаю таксама невялікую пасылку. Лічу сваім абавязкам папрасіць у Вас прабачэньня за затрыманьне гэтых пасланьняў, што было выклікана маёй адсутнасьцю ў Шчэцыне. Багдан Стр[...]чык».

Каб не дапіска на лісце, наўрад ці можна было б калі здагадацца, што той Ось, да каго пісаны ліст, ёсць Антон (Антось) Адамовіч. І што Васілёк — імя, якім падпісаны ліст, — насамрэч ёсць Гінтаўт, толькі не Васіль, а Франц.

Франц Гінтаўт (1910–2002) разам з Антонам Адамовічам вучыўся ў менскім Беларускім педагагічным тэхнікуме (ягоныя ўспаміны пра той час былі друкаваныя ў кнізе твораў Лукаша Калюгі (Мінск, 1992), агульнага іх сябры — разам з іншымі (Сяргеем Астрэйкам, Валерам Мараковым, Юліем Таўбіным... ды хіба ўсіх пералічыш!), а пазней, таксама разам, адбываў пакаранне за ўдзел у «Беларускай народнай грамадзе» — у «амерыканцы» і на высылцы. Пасля жыццёвых перыпетый Франц Гінтаўт атрымаў, напярэдадні вайны, працу ў Беларусі; там і пражыў усю акупацыю, не паспеўшы эвакуявацца.

Дзесьці ў сярэдзіне 1950-х гадоў Міністэрствам Асветы БССР Франц Гінтаўт быў скіраваны на працу ў Гародню.

Ліст, які таксама — якое дзіўнае супадзенне! — кранае абставіны смерці Янкі Купалы, напісаны «па-шпіёнску», але ці быў ягоны змест, намёкі загадкаю для чужых вачэй?

Так ці інакш, ліст гэты варты публікацыі: і як сведчанне кантактаў метраполіі з эміграцыяй, і як яшчэ адна версія смерці народнага песняра.


Антон Адамовіч

«Дарагі дружа Ось!

Прыкрая часіна мінула с атрыманнем твайго ліста. Вельмі карціла ведаць, ці атрымаў ліст з новых шляхоў. Думалася і аб тваім здароўі, усёж-ткі кавалак часу адтапталі і крыху, як кажуць, прытапталіся, а нічога пра гэта ня пішаш. Я, дзякуй богу, мацуюся, дзеткі растуць, дачушка ўжо вялікая дзяўчына, яе крыху памятаеш (маці, напэўна, больш памятае). Ці завёў сям'ю на новым месцы?

Дудзічыха выйшла замуж, жыве, здаецца, у Менску.

Менск стаў прыгожым горадам, расце ва ўсе бакі, як на дражджах, дарос нават да Дараўкі. Ці маеш здымкі новага Менска? На тым месцы, дзе калісьці жыў Купала, збудавалі яго памяці прыгожы музэй, а ўвесь пляц (ад музэю да Савецкай) стаў прыгожым паркам. Берагі Свіслачы ў гэтым месцы адзелі гранітныя фальбонкі. Вуліцы сталі прасторнымі й зялёнымі. Менск можа зачараваць, калі хто яго пабачыць. Менск стаў запраўды сталічным.

З цёткай Уладзяй час ад часу спатыкаемся, а таксама з яго сястрой. Купала падвыпіўшы падымаўся па лесвіцы і штурхануў тэхнічку, а пасля, падняўшыся крышку вышэй, на адзін паверх, уздумалася яму яе перапрашаць. Перавеснуўся цераз парэнча і, відаць, згубіў раўнавагу. Смерць выпадковая.

Нашы патроху пішуць, напэўна, чытаеш іх творы. Што падабаецца з іх табе?

Трэба сказаць — пісьменніцкая кагорта расце. І як бы не пісалі, усё ж яны робяць добрую справу. Беларускае слова расце, узмацоўваецца, а гэта важна. Было б горш, каб паўтарыліся тыя падзеі, якія перажыла бацькаўшчына калісьці. Калі прыглядзіцца добра, то можна знайсці добрыя зярняткі.

Ці ёсць патрэба ў вас маліцца сваім зорам?

Ты высказаў многа цікавых думак, ужо яны дайшлі — гэта важна. Добра і тое, што ўзнікла нарада цераз чорную стужку. Раіцца трэба было больш і часцей.

Багдановіча высылаем. Было б добра, калі б выслаў самае цікавае, на тваю думку. Цікава, што напісана там — крытычнае, мастацкае. Мабыць, «спісыватэльскіх» выданняў у вас няма?

Ці ёсць згуртаванасць думак, ці яны розняцца і як? З якімі сябрукамі сябруеш, якіх ведаю я?

Пішы часцей.

Няхай збудзецца ўсё тое, аб чым думаем.

Усе жадаем усяго найлепшага.

Твой Васілёк».

# Ушанавалі памяць ахвяраў Дражні

Леанід АКАЛОВІЧ

**14 красавіка вернікі і грамадскія актывісты ўшанавалі памяць ахвяраў партызанскага тэрору — 25-ці мірных жыхароў вёскі Дражня Старадарожскага раёна.**

На ўсе магілы бязвінных пакутнікаў былі ўскладзены кветкі, вянкі і запалены зьнічы. Пратаярэй Леанід Акаловіч справіў тут за ўсіх спачылых ліцыю, успомніўшы іх пайменна, асвяціў святою вадою магілы і помнікі на іх.



У 1943 годзе савецкія партызаны, змагаючыся з паліцэйскім гарнізонам у вёсцы Дражна, забілі 25 мірных жыхароў. У той крывавай бойцы загінуў толькі адзін паліцэйскі і 7 партызанаў.

Улады паставілі абеліск на брацкай магіле 20 савецкім воінам і 7 партызанам, што «погибли в 1943 г. при разгроме полицейского гарнизона». Праз дарогу на вясковых могілках пахаваны ўсе ахвяры той жудаснай трагедыі, якую ўчынілі над старымі жанчынамі, мужчынамі і дзецьмі партызаны.

Некалькі гадоў таму актывісты грамадскіх рухаў з Менску і вернікі з Афрасінінскай суполкі БАПЦ сумесна з мясцовымі жыхарамі вёскі Дражня ўсталявалі вялізны драўляны афрасінінскі крыж са спісам усіх расстраляных дражненцаў. Але асвечаны айцом Леанідам Акаловічам крыж праз пару дзён раённая ўлада спілавала і адвезла ў расейскую царкву ў суседнюю вёску Залужжа, дзе ён дагнівае ў хляве.

За ўсталяванне крыжа Вячаслаў Сіўчык і Віктар Хурсік адсядзелі ў Старых Дарогах па 15 сутак, айцец Леанід быў аштрафаваны больш як на 1 мільён рублёў. Аштрафаныя былі і некаторыя мясцовыя ўдзельнікі ўстаноўкі крыжа.

Тым не менш вернікі і патрыёты з Менску амаль штогод прыязджаюць на Дражненскія могілкі, каб ушанаваць памяць загінулых ахвяраў партызанскага тэрору 1943 года. Так было і 14 красавіка 2014 года.

У актывістаў ёсць намер паставіць неўзабаве ў памяць трагедыі 1943 года вялікі камень-валун з мемарыяльнай дошкай, дзе будуць высечаныя ўсе 25 імёнаў загіблых.

# У гонар пані Арыны

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Чарговы дзень нараджэння вядомай дзеячкі нацыянальнага руху Арыны Вячоркі беларускія выканаўцы сярэднявечнай музыкі прапанавалі адзначыць мемарыяльным канцэртам. Бо пані Арына, як яе называлі, застаецца ў памяці сучаснікаў як арганізатар рыцарскага руху ў Беларусі, ініцыятар самага значнага ў краіне музычнага праекта «Легенды Вялікага Княства», а таксама прадзюсер першага ў Беларусі выдання «Полацкага сшытка».**

Таму 14 красавіка ў мінскім Палацы ветэранаў сабраліся шматлікія прыхільнікі музычнай культуры мінулага, медыевальныя выканаўцы і гурты, родныя і блізкія А. Вячоркі, каб успомніць яе добрым словам на фоне музыкі, папулярызацыі якой доўгія гады спрыяла пані Арына. Да таго ж, гэты канцэрт — добрая нагода для прэзентацыі дыска з «Полацкім сшыткам», рэалізацыі якога аддала столькі сіл і таленту.

Гонар распачаць канцэрт памяці Арыны Вячоркі выпаў ветэранам беларускай медыевальнай сцэны, гурту «Стары Ольса». Яго кіраўнік Зміцер Сасноўскі распавёў пра тое, якім чынам пані Арына ўплывала на іх музычныя арыенціры, а пазней на гучанне гурта і рэпертуар.

А распачаўся канцэрт кампазіцыяй «Выправа», што спачатку была створана для «Лошыцкага фэсту», у арганізацыі і правядзенні якога ўдзельнічала пані Арына. Далей гурт «Стары Ольса» выканаў баладу «Вайтоўна», якую, па словах З. Сасноўскага, можна было б аднесці і да лёсу Арыны Вячоркі.

Слухачы цёпла прынялі выкананне лютністам гурта І. Кубліцкім п'есы В. Длугарая. Музыканты «Старога Ольсы» выканалі «Вітальны танец» з «Полацкага сшытка», а на заканчэнне — рэканструкцыю старадаўняй рыцарскай песні «Пекна есть кола рыцэрска» на польска-беларускай моўнай мяшанцы.

Вядучы канцэрта Франак Вячорка распавёў пра тое, што гэтае мерапрыемства не толькі мемарыяльнае, але гэта і прэзентацыя дыска са старажытным помнікам беларускай музычнай культуры XVI–XVII ст. — «Полацкім сшыткам». І таму ён запрасіў на сцэну кіраўніка «Беларускай капэлы», знанага опернага спевака і даследчыка беларускай музычнай культуры, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Віктара Скарабагатава. Віктар Іванавіч вельмі цікава распавёў пра гісторыю вяртання «Полацкага сшытка» і ўдзел у гэтым працэсе У. Караткевіча і А. Мальдзіса.


На сцэне «Стары Ольса»

Наступным на сцэну Палаца ветэранаў быў запрошаны ансамбль «Кантабіле», які ўжо ў 1970-я гады выконваў п'есы з «Полацкага сшытка». Трэба адзначыць, што гэты ансамбль выкарыстоўвае флейту, віяланчэль, скрыпку, клавесін, што надае яго аркестраваму гучанню камерныя рысы. У рэпертуары ансамбля шмат п'ес з «Полацкага сшытка»: «Вітальны танец», «Бергамаска», «О, дзіўная прыгажосць», «Я паранены табой», «Куранта», «Я не злодзей». Некаторыя з гэтых п'ес прагучалі ў выкананні «Кантабіле».

Пасля былі ўдзельнікі дзіцячага гурта «BREVIS» пад кіраўніцтвам Паўла Сурагіна. Нагадаю, што «BREVIS» — ансамбль блок-флейтыстаў, у складзе якога ёсць інструменты рознай танальнасці: сапрана, альт і тэнар. У гэты вечар юныя музыканты пад кіраўніцтвам свайго настаўніка прапанавалі слухачам апрацоўкі для блок-флейт твораў В. Длугарая, сюіту з твораў «Полацкага сшытка» і вакальную «Баладу», якія былі прыняты слухачамі гучнымі воплескамі і воклічамі «Брава!».

Госці з Баранавічаў — гурт камернай сярэднявечнай музыкі «Контрданс» — выканалі некалькі танцаў з «Полацкага сшытка», п'есы для лютні В. Длугарая. Асаблівасць гучання «Контрданса» — у выкарыстанні духавых, струнных, клавішных і ўдарных інструментаў, што надавала аранжыроўкам твораў у выкананні «Контрданса» еўрапейскую вытанчанасць і беларускую душэўную цеплыню.

Завяршаў канцэрт гурт «Testamentum Terrae» пад кіраўніцтвам Юрася Панкевіча. Музыканты добрымі словамі ўспомнілі пані Арыну і адзначылі той неацэнны ўклад у нацыянальную культуру, які яна зрабіла на працягу свайго жыцця. Таму музыканты «Testamentum Terrae» прапанавалі кампазіцыю «Шлях караля», якую адразу ж перайменавалі ў «Шлях каралевы».

Далей прагучала некалькі папулярных кампазіцый з рэпертуару «Testamentum Terrae»: «Англеза», «Рыцар Верабей» і беларускі рок-н-рол «Каваль», якія ўнеслі ў сум па страчаных блізкіх ноту жыццёвага аптымізму. Бо і сама спадарыня Арына Вячорка была чалавекам дзейным і жыццярадасным, якой і засталася ў памяці ўсіх тых, хто шмат гадоў супрацоўнічаў з ёй на ніве адраджэння беларускай музычнай спадчыны.

# AKUTE: з павагай да папярэднікаў

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У клубе «RE:PUBLIC» аматары беларускамоўнай рок-музыкі пазнаёміліся з навінкай ад зорак айчыннага року — гурта «AKUTE». Магілёўскія музыкі прадставілі ў канцэртным варыянце свой трэці альбом «Reaĺnaść i sny»**

Як анансавалася самімі музыкантамі, гэтая студыйная праца павінна прадставіць беларускім слухачам новае, больш удумлівае гучанне калектыву, іх сталы падыход да кампазіцыйнай канцэпцыі і гукавога вырашэння платы. Да таго ж, ажыятаж да альбома падаграваўся і наяўнасцю на дыску кавераў «AKUTE» на класічныя кампазіцыі легендарнага гурта 90-х ULIS «Як на далоні» і «Марнатраўны сын». Здаецца, інтрыгі да новай сустрэчы з музыкантамі было дастаткова, тым больш, апошні альбом «AKUTE» «Не існуе» быў прадстаўлены параўнальна для рок-музыкантаў даўно, у 2012 годзе.


Лідар «AKUTE» Стась Мытнік

Гэтыя акалічнасці і паспрыялі таму, што зала клуба была амаль поўнасцю запоўнена, і музыканты «AKUTE» у добрым гуморы распачалі прэзентацыю новай кружэлкі. Але дзеля таго, каб сустрэча больш запомнілася, каманда адразу ж нагадала некалькі ўлюбёных кампазіцыі з альбомаў «Дзевачкі і космас» (2011) і «Не існуе» (2012), каб падрыхтаваць сваю аўдыторыю да свежых кампазіцый, яшчэ ім не вядомых. А распачалі музыканты адной з самых пазнавальных кампазіцый са свайго другога альбома — «Спі», што адразу была падхоплена большасцю слухачоў, якія спявалі, танчылі і апладзіравалі сваім улюбёнцам. Тое ж яднанне можна было адчуць, калі гучалі кампазіцыі «AKUTE» «Адшукай», «Прамяні», «Кроў пад снегам», «Кроў бы вада», у якой, дарэчы, Стась Мытнік бліснуў віртуозным сола на электрычнай гітары. Цікава, што аранжыроўкі і ўсё гучанне гэтых твораў сталі калі не цяжкімі, дык больш рэзкімі і гучнымі за кошт акцэнтаванай бас-гітары Рамана Жагарава і разнастайных, часам па-джазаваму сінкапіраваных акордаў сола-гітары Стася Мытніка.

Пасля таго, як слухачы дастаткова паўзгадвалі старыя хіты гурта, разам іх праспявалі, надышоў час пазнаёміцца з доўгачаканай навінкай ад «AKUTE» — альбомам «Reaĺnaść i sny». Па словах музыкантаў, да гэтай працы яны падыходзілі больш сур'ёзна, чым да папярэдніх. Запісвалі на лепшых студыях, зводзілі запісаны матэрыял у Кіеве.

Прыхільнікі творчасці гурта «AKUTE» ужо змаглі пазнаёміцца з кампазіцыямі новай плыты ў інтэрнэце, куды музыканты выклалі свой новы альбом. А цяпераka ім прапанавалі канцэртныя іх варыянт такіх песень, як «Мы цалуем сонца», «Твае анёлы», «Бегчы» і іншыя. Гэтыя хіты былі аранжыраваныя ў больш дынамічным ключы: з фанкавымі рытмамі, якія часам, здавалася, пераходзілі ў панк ці альтэрнатыву, калі да струнных дадаваўся знаёмы па «металічных» канцэртах пошчак бубноў Паўла Філатава. Зноў жа, гэтыя змяненні ў гучанні любімай каманды слухачы ўспрынялі як натуральныя. Што, відавочна, сведчыць: з музыкай любімага гурта сталеюць і іх слухачы.

Не аднойчы ўдзельнікі гурта «AKUTE» распавядалі пра тое, што яны, так бы мовіць, выраслі на музыцы легенды беларускага альтэрнатыўнага року — гурта «ULIS». Ну сапраўды, кампазіцыі гэтага гурта і сёння прывабліваюць слухачоў больш маладой генерацыі сваім незвычайным меладызмам, актуальнымі тэкстамі, вынаходніцкімі аранжыроўкамі і выканаўчым прафесіяналізмам. Да такой якасці музыкі і гука імкнуцца і музыканты «AKUTE». Сваю павагу папярэднікам яны выказалі тым, што да 45-годдзя «ULIS» падрыхтавалі і на прэзентацыі выканалі два кавера з іх рэпертуару: кампазіцыі «Як на далоні» і «Марнатраўны сын».

Хочацца адзначыць, што гэтыя апрацоўкі класікі беларускага року нечаканыя, бо музыканты «AKUTE» змянілі рытміку кампазіцыі, аранжыроўку, пасля чаго кампазіцыя набыла рысы псіхадэліі і філасафічнасці, што можна назваць іх каверы наватарскімі. Думаю, аўтар музыкі твораў Слава Корань ухваліць такі падыход магілёўскіх музыкантаў.

На жаль, сам дыск альбома «Reaĺnaść i sny» да прэзентацыі не быў гатовы, што выклікала расчараванне ў некаторых слухачоў. Музыканты і прадзюсер альбома Віталь Супрановіч з БМАgroup па не залежных ад іх абставінах не змаглі ў вызначаныя тэрміны завезці зведзены матэрыял з Кіева. Але затое ў прыхільнікаў гурта «AKUTE» з'явілася матывацыя трапіць на наступны канцэрт любімага гурта, каб набыць жаданы дыск. Тым больш, што ён не за гарамі: «AKUTE» разам з гуртамі «:B:N:», «SCIANA», «NIZKIZ» і «ТЛУШЧ» дадуць канцэрт 23 мая ў клубе «RE: PUBLIC» да Дня радыё.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч
ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 503

Падпісана да друку 18.04.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.